PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 31 (1994) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 31 ЛІПЕНЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.



*Народны фэст у Гарадку пасля "Басовішча".* **Фота Сяргея Грынявіцкага**

# КУПАЛЛЕ

6 ліпеня (серада) 1994 г. у Рыбалах адбылося студэнцкае Купалле, арганізаванае маладымі людзьмі — удзельнікамі рэйду „Бацькаўшчына”.

Пад вечар пачалі з'язджацца таксама „старыя” сябры студэнцкага руху — настаўнікі, бізнесмены, беспрацоўныя. У Купаллі прымалі ўдзел мясцовыя хлопцы. Тыя апошнія выклікалі найбольшае рознагалоссе. Некаторыя настаўнікі строга наказвалі ім добра весці сябе. Нейкі А... хацеў пераканаць дзевак з рэйду, што ён „polak prawosławny” і праз кожнае слова паўтараў непрыстойны выраз „блядзь”. Такім спосабам усе пабачылі на свае вочы літаратурны ўзор Слабадзянка, які і сюды дабіўся. На Купалле прыехалі менскія госці — тэатральны гурток Альжбеты Тамчук. Нейкі час забаўлялі яны ўдзельнікаў Купалля, каб нанканец уключыцца ў супольную гульню. Права падпаліць вогнішча меў той, хто закіне вянок на высокую тычку. Пашчасцілася гэта Юрку Асенніку. Далей паплылі песні, песні, песні. Найбольш яркімі спевакамі сёлетняга Купалля” былі браты Лукашукі, якія бясконца „пасылалі сына ў салдаты”, „распрагалі коней”, „не хацелі радасцяў чужых” і „ўлюбляліся ў дзявочыя чорныя вочы”. Не дзіва, яны — пляменнікі славутага Сяргея Лукашука.

Недзе апоўначы, дзяўчаты пачалі кідаць вянкі на ваду. Амаль усе хлопцы вялі сябе па-мужчынску. Ад шматлікіх аматараў дзявочых вянкоў быццам і вады прыбыло.

— Каська, ты вянок не пускаеш? — пытаўся свежы паклоннік Касінага вянка.

— Я ўжо пусціла, — публічна заяўляла дзеўка.

Яшчэ доўга ўсе спявалі, скакалі цераз вогнішча, успаміналі „старыя добрыя часы”.

Недзе а 2 гадзіне ночы ўсе вярнуліся ў мясцовую святліцу, дзе, па словах „светліцовай”, „спалі як анёлкі”.

* * *

Дзесятае, ужо традыцыйнае, Купалле для шырокай публікі адбылося ў Белавежы 10 ліпеня гэтага года. Яшчэ далёка да вечара ў сэрцы пушчы разносіўся святочны поды мерапрыемства. У цэнтры, на тратуарах, гандлявалі прыезджыя суродзічы з-за мяжы. Найбольшай папулярнасцю карысталася гарэлка, якую можна было купіць па 50 тысяч.

Дзе-нідзе на цяністых лаўках рэпеціраваліся артысты-ўдзельнікі. Найбольш было калектываў з Пружан. Залатазубыя спявачкі з „Краснай гвоздзікі” спявалі частушкі, а побач іх круціліся мясцовыя мужыкі. У галерэі Тамары Тарасевіч таксама шмат было ў гэты дзень наведвальнікаў. З'явіліся

☞ *Працяг на стар. 8*



*Найпрыгажэй паказалі сябе дзяўчаты з Пружан.*

Беласточчына пасля выбараў

# МІЛЕЙЧЫЦКАЯ СХВАТКА

Гмінная рада ў Мілейчыцах збіралася ўжо чатыры разы, але выбраць войта да гэтай пары ёй так і не ўдалося. У Радзе з пятнаццаці чалавек адзінаццаць — новыя людзі. На старшыню Рады выбралі яны Мар'ю Цеслік — настаўніцу мясцовай школы, якая жыве ў вёсцы Паканева. Новая старшыня Рады прадстаўляе салідарніцкую плынь і згуртавала вакол сябе большасць радных (іх палітычная арыентацыя не адназначная), якія падтрымоўваюць кандыдатуру Мікалая Блашчука на пост войта — таксама настаўніка мясцовай школы. Другая сесія, якая адбывалася 8 ліпеня, магла б закончыцца поспехам Мікалая Блашчука, калі б той не запатрабаваў права на ўвядзенне ва Управу гміны чатырох сваіх людзей, што насцярожыла старых радных. Управа гміны налічвае сем чалавек і ўсім стала ясна, што для папярэдняй фармацыі застануцца ў ёй толькі два месцы. У такой сітуацыі шэсць прыхільнікаў другога кандыдата — Мікалая Салышкі з Мілейчыц, інжынера сельскай гаспадаркі — пакінулі залу і з-за браку прысутнасці 2/3 асабовага складу Рада была вымушана спыніць пасяджэнне. Такое ж паўтарылася і на чарговай сесіі 14 ліпеня. Чацвёртая сесія адбылася 17 ліпеня. Папярэдзіла яе арганізацыйная падрыхтоўка з абодвух бакоў, а кандыдату ў войты М. Блашчуку дапамагалі яшчэ дарадчыкі ад бельскіх украінцаў, паколькі той закончыў украінскі педагагічны ліцэй.

Спрэчкі пачаліся ўжо пры зацвярджэнні павесткі дня. Лявонцій Высоцкі пратэставаў супраць змяшчанню ў паведамленнях старога парадку, які прапанаваўся на II сесіі, калі быў план выбіраць спачатку Управу гміны, а потым войта. Старшыня Рады паясніла, што ў паведамленнях даецца раней прапанаваны парадак, паколькі частка радных выходзіла з залы і немагчыма было яго змяніць. Потым правяла яна галасаванне за парадак сесіі.

Перад тым, як выбіраць новага войта, старшыня Рады запытала цяперашняга войта, Мікалая Бартнічука, ці будзе ён кандыдаваць на пост войта ў гэтай кадэнцыі. Стары войт заявіў, што кандыдаваць не будзе, а абавязкі кіраўніка гміннай адміністрацыі будзе выконваць да часу абрання новага войта. Тады старшыня М. Цеслік выказала думку, каб адклікаць старога войта, а ўсе зразумелі, што пасля такой працэдуры абавязкі войта выконваў бы Мікалай Блашчук, які ў старой Управе быў грамадскім намеснікам войта. Супраць такой гульні — спробе ўвядзення чорным ходам Мікалая Блашчука на пост выконваючага абавязкі войта — рэзка пратэставаў Мікалай Салышка. Больш гэтая справа не разглядалася, паколькі ў прынятай павестцы дня такі пункт не быў прадугледжаны.

Пасля гэтай сутычкі Рада занялася выбарам войта. Старшыня Рады Мар'я Цеслік паведаміла, што ў яе знаходзіцца толькі адна заява кандыдата — ад Мікалая Блашчука, і павучыла, што заява

☞ *Працяг на стар. 3*

 

Беласточчына пасля выбараў

# МІЛЕЙЧЫЦКАЯ СХВАТКА

*Працяг са стар. 1*

павінна мець рэкамендацыю прынамсі трох радных. З залы пачуўся голас, што ёсць яшчэ іншая кандыдатура, але дакумент на рукі старшыні так і не паступіў. У такой сітуацыі голас узяў кандыдат на пост войта Мікалай Блашчук, які спачатку заявіў, што ён узбударажаны ходам папярэдніх сесій і заклікае спыніць сваркі. Зазначыў ён, што сам, без шырокай падтрымкі, нічога не зробіць і што будзе імкнуцца дасягнуць кансенсус з усімі грамадскімі групоўкамі. У сваіх планах намерваецца ён у першую чаргу забяспечыць камунальную маёмасць, давоз дзяцей у школу, супрацьставіцца беспрацоўю шляхам наладжвання інтэрвенцыйных работ. Гаварыў ён таксама аб палітычнай трансфармацыі, а патрэбу абнавіць гмінную ўладу падмацаваў параўнаннем яе да састарэлай дзеўкі, якой выгляд усім ужо надаеў. Канчаючы сваё выступленне, прымяніў ён геркаўскі заклік аб дапамозе.

Другім прамоўцам выступіў контркандыдат Мікалай Салышка, які тое, што сказаў Мікалай Блашчук назваў казкай для дзяцей, а не праграмай. Нагадаў ён таксама, што М. Блашчук выводзіцца са старой групоўкі (быў грамадскім віцэвойтам) і ў дадатак прайграў апошнія выбары (не выбралі яго радным). Сцвердзіў ён таксама, што радныя трапілі ў новую падпарадкаванасць... І ў гэтым месцы трэба было яму спыніць сваю (можа двухмінутную) прамову, паколькі старшыня Рады забрала яму голас.

Мікалай Салышка і яго прыхільнікі пад апладысменты публікі (паглядзець на змаганні за пасаду войта прыйшлі чалавек недзе пад дваццаць) пакінулі пасяджэнне. У зале засталіся восем радных, але працягваць сесію было ўжо немагчыма, бо для выбару войта неабходна прысутнасць прынамсі дзесяці радных. Неўзабаве будзе назначаны тэрмін чарговай сесіі.

**ВІТАЛЬ ЛУБА**

# У ОРЛІ БЕЗ ПЕРАМЕН

12 ліпеня Гмінная рада ў Орлі выбірала войта. Пачатак сесіі зацягваўся, бо не хапала некалькіх радных. Стаяла 30-градусная гарачыня. Якісьці дзядзька раздаваў буклеты пра розныя гатункі пшаніцы. „Вы, пане Кудэрскі, лепш нам *залатвце* дождж", — сустрэў гэту ініцыятыву адзін з радных пад рогат калегаў.

Калі сабраліся ўсе 18 членаў рады, хутка прынялі парадак і перайшлі да найважнейшага пункту. Кандыдаты на войта былі два: стары войт Міхал Іванчук і прэтэндэнт Янка Добаш. Абодва з Арлянскае гміны — першы з Маліннік, а другі з Крывяціч, — але абодва жывуць цяпер у Бельску.

Старому войту, як кожнаму, у чыіх руках улада ўжо была, даваліся паслухаць закіды радных аб негаспадарлівасці, недахопе планаў і канцэпцыі на будучыню. І яшчэ, чаму гэтай вясною мела месца такая інтэнсіфікацыя работ на дарогах гміны. „Я ведаю, што гэта маглі палічыць выбарчай кампаніяй, — абараняўся спадар Іванчук, — але гэта для мяне не прычына, каб перастаць выконваць свае заданні". І аддаў слова канкурэнту.

Янка Добаш сказаў словы прыгожае, эмацыянальнае, але мала канкрэтнае. Падкрэсліваў свае карані і дасведчанне на кіраўнічай пасадзе (8 гадоў дырэктарства ў Пачатковай школе ў Пашкоўшчыне). Кандыдаваць на войта ў роднай гміне схіліла яго яшчэ і тое, што ён якраз беспрацоўны. Разумеючы, што значыць быць беспрацоўным, колькі духовых мукаў трэба перажыць у розных чэргах на атрыманне працы ці ўспамогі, спадар Добаш абяцаў прыкласці ўсе намаганні, каб у гміне рашуча зменшыць гэтую з'яву.

У тайным галасаванні дзве трэція радных выказаліся ўсё ж такі за старым войтам. Абяцаў ён працягваць свой стыль працы — ездзіць па вёсках, прыглядацца да канкрэтных праблем і вырашаць іх на месцы, а не з-за стала.

Далей Рада выбірала са свайго ліку 6 чалавек ва Управу гміны. Калі назвалі ўсіх ахвотных, было іх столькі, што адзін чалавек заўважыў: „Цяпер то хіба мы з войтам галасы будзем лічыць, бо нікога больш не засталося".

Выбары пайшлі гладка. Таксама як і запісы ў камісіі рады. У Орлі іх дзве: бюджэтная і самаўрадавая. Першая карысталася куды большай папулярнасцю, то зрабілі так: запісвалі ўсе ахвотных і на дзесятым прозвішчы запіс закрылі, а ўсе астатнія будуць працаваць над пытаннем самаўрадаў.

Наканец яшчэ Рада вызначыла сабе камандзіровачныя (дыеты). Старшыня за сесію будзе атрымліваць 2 мільёны, а радавы радны — 700 тысяч злотых.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

# А ШТО БУДЗЕ Ў БЕЛЬСКУ?

„Бельская кааліцыя" на першай сесіі Гарадской рады паказала, хто выйграў выбары ў горадзе. Радныя з „Jedność" пакрыўдзіліся і на другую не з'явіліся зусім. Такім чынам не адбыўся выбар бурмістра. „Бельскай кааліцыі" не хапае аднаго голасу да патрэбнай пры такім выбары прысутнасці дзвюх трэціх Рады. Справа перанесена была на наступную сесію.

Калі „Jedność" аб'явіць байкот Рады, ваявода яе распусціць і для кіравання горадам назначыць свайго камісара. Можа стаць ім цяперашні бурмістр Казімеж Ляшчынскі, з аднаго з раднымі „Jedność" палітычнага лагера.

Ці, у такой сітуацыі, непрысутнасць меншасці можам разглядаць як аднаразовы шантаж, каб падняць свой ранг у Радзе, ці адмову ў супрацоўніцтве? Я не здзівіўся б, каб было гэта тое другое. Бо ж які сэнс выпускаць уладу з рук, калі ёсць магчымасць яе захаваць.

Такім рашэннем выдаецца пацыху быць задаволены і Беларускі выбарчы камітэт. Гэта дазволіць зноў быць у высакароднай апазіцыі. Як жа інакш тлумачыць страх стаць кандыдатам на бурмістра? Калі не дазваляюць на гэта слабыя нервы, то навошта, панове, гуляць у палітыку? Навошта канструяваць скамплікаваныя каааліцыі і цягнуць у Раду на сваіх плячах людзей, якія туды ніколі б не трапілі?

**М. В.**

# АПОШНІ АКОРД У НАРВЕ

У гміне Нарва самаўрадавыя выбары вызначыліся незвычайным у параўнанні з іншымі гмінамі драматызмам. У Нарве ішло вострае змаганне паміж кандыдатамі, якое ў некалькіх выпадках закончылася жараб'ёўкай. У Нарве ж не меншыя страсці спадарожнічалі і выбару войта.

Ужо ў час выбарчай кампаніі ў Раду гміны чуліся галасы, што важным элементам гэтай жа кампаніі з'яўляецца тое, каго дадзены кандыдат на раднага бачыць войтам. Пра саміх кандыдатаў на войта не было чуваць да апошняй хвіліны. Было затое аб'яўлена нешта накшталт конкурсу на войта. Першае пасяджэнне Рады гміны вырашыла, што ахвотныя стаць ім павінны заявіць сваю кандыдатуру старшыні Рады гміны Леанідасу Казлову да 13 ліпеня ўключна. Пасяджэнне, якое мела выбраць войта, пачалося а 10-ай гадзіне наступнага дня.

Пачалося яно з дыскусіі над бюджэтам гміны. Са справаздачай выступіў Ян Тапалянскі — войт папярэдняй кадэнцыі. Паколькі галоўным пунктам пасяджэння былі выбары войта, яны накінулі свой характар для гэтай дыскусіі. Частка радных пачала крытыкаваць Я. Тапалянскага за тое, што на рахунку гміны ўсяго 300 мільёнаў злотых, а таксама і за рамонт гасцініцы ў Нарве. Наконт бюджэту — адбіваўся Я. Тапалянскі, — заключаецца ва ўтрыманні раўнавагі паміж прыбыткам і выдаткамі. Калі грошы залежваюцца ў касе, іх паглынае інфляцыя.

Расло напружанне. Час ад часу камусьці, па-за парадкам дыскусіі, вырываўся каментарый у адрас прамоўцы. І ўрэшце надышоў той момант. Старшыня Рады Л. Казлоў адчыніў сваю папку і дастаў адтуль тры заявы — Яна Іванюка, Яна Тапалянскага і Юзэфа Славаміра Секунды. Пачалася падрыхтоўка да прэзентацыі кандыдатаў на войта. Адразу ўзнікла прынцыповая дылема, ці кандыдат мае выступіць перад раднымі ў прысутнасці канкурэнтаў, ці можа на час гэтага выступлення іншыя кандыдаты павінны выйсці з залы? Кандыдат на войта Ю. С. Секунда выказаўся за другі варыянт — гэта агульна прыняты прынцып усякіх конкурсаў. Тут жа, аднак, узнік клопат з кандыдатам Я. Тапалянскім, які адначасова з'яўляецца радным. Адбылося першае галасаванне. Радныя выказаліся за тое, каб кандыдаты выступалі ў прысутнасці сваіх канкурэнтаў.

Пачаліся выступленні. Ян Іванюк выявіўся пенсіянерам, які 30 гадоў выконваў функцыю дырэктара школы ў Нарве. Сказаў пра патрэбу разбудовы паслугоевай сеткі ў Нарве дзеля ліквідацыі беспрацоўя, пра новую тэлефонную станцыю, а таксама пра згоднае ў гміне сужыццё беларусаў і палякаў. Юзэф Славамір Секунда паказаўся маладым прадпрымальным чалавекам, які ў сваім жыцці пакаштаваў хлеба не з адной печы. Сказаў, між іншым, пра развіццё малых прадпрыемстваў, разбудову сеткі водаправодаў, ахову асяроддзя ды выгляд мясцовасці Нарва ў кантэксце вяртання ёй гарадскіх правоў. Ян Тапалянскі расказаў пра тыя інвестыцыі ў гміне, якія актуальна ў ходзе ажыццяўлення, а таксама пра шанцы новых інвестыцый.

Пытанні да кандыдатаў на войта мелі аднабаковы характар. Быў гэта працяг прэтэнзій да Я. Тапалянскага за, агульна кажучы, празмерную самастойнасць войта ў мінулай кадэнцыі. Затым быў аб'яўлены перапынак, неабходны дзеля падрыхтавання выбарчых бюлетэняў. Для выбару войта патрабуецца абсалютная бальшыня галасоў — у нараўскай Радзе 18 чалавек.

Вылучаная з ліку радных падліковая камісія раздала бюлетэні. Для важнасці голасу трэба перакрэсліць два і толькі два прозвішчы — у кожным іншым выпадку голас будзе лічыцца няважным. Адчувалася, што ўмовы становяцца абсалютна невыносным. Была дакладна 11.58, калі сябры падліковай камісіі пазбіралі ў скрыначку галасы. Адышлі метраў пяць убок, да другога ў зале стала. Пачаўся падлік. Усталявалася цішыня, што аж зазвінела ў вушах.

Дакладна апаўдні зачытаны быў пратакол. Ян Іванюк — 10 галасоў, Ян Тапалянскі — 8 галасоў, Юзэф Славамір Секунда — ніводнага голаса. Войтам стаў Ян Іванюк. Другое пасяджэнне Рады гміны ў Нарве выбрала яшчэ Управу гміны — увайшлі ў яе галоўным чынам радныя з-па-за Нарвы.

**АЛІК МАКСІМЮК**

# КАМУ ГЭТА ВЫГАДНА?

У 24 н-ры „Нівы" ад 12 чэрвеня г.г. пісаў я пра новы расклад цягнікоў (артыкул „Адзін садом і гамора"). Спадзяваўся я, што Цэнтральная дырэкцыя дзяржаўнай чыгункі (ЦДОКП) у Варшаве больш прыхільна і па-гаспадарску гляне ў наш бок і станоўча паставіцца да пастулатаў жыхароў Чаромхі і навакольных вёсак. На тое ж самае спадзяваліся войт Чаромхаўскай гміны ды начальнікі чыгуначных станцый у Чаромсе, Гайнаўы, Семяноўцы, Сямяцічах, Бельску-Падляшскім, а таксама Прадпрыемства чыгуначнага перасовачнага саставу ў Чаромсе. Адказ, які паступіў з Варшавы, расчараваў усіх зацікаўленых справай.

Вось што піша начальнік Пасажырска-гандлёвага бюро ЦДОКП: „Я разумею камунікацыйныя цяжкасці, з якімі прыходзіць сустракацца жыхарам гмін, падпісаных пад пісьмом. Аднак заспакоіць усе патрэбы ў гэтай галіне пры сённяшнім вельмі складаным фінансавым становішчы прадпрыемства ПКП немагчыма па эканамічных прычынах". Далей начальнік піша наступнае: „Змены, якія былі ўведзены ў новы расклад, выкліканы абгрунтаванымі эканамічнымі ашчаднасцямі, якія зводзяцца да паляпшэння абароту чыгуначных саставаў, выключэння лішніх прастояў і падсылкі пустых саставаў".

Якая тут праўда? Найлепш яе ведаюць самыя чыгуначнікі. Гэта ж яны, начальнікі пяці станцый, прадстаўнікі і важакі рабочага калектыву, абмяркоўвалі „папраўкі". Яны найлепш ведаюць сітуацыю на сваёй тэрыторыі і ім таксама баліць галава за прыбытак у сваім прадпрыемстве, бо ад таго залежаць іхнія зарплаты. Аднак вярхушка не прыхілілася да нізавых прапаноў, спасылаючыся на эканамічныя ашчаднасці. Але сутнасць справы заключаецца ў чым іншым. Вось прыклады.

Калісьці цягнік з Чаромхі ў Бельск-Падляшскі (а далей у Беласток) ад'язджаў перад сёмай гадзінай раніцы, а наступны — каля адзінаццатай. Такі расклад быў усім да спадобы: і школьнікам, і іх бацькам. Цягнікі былі тады поўныя пасажырамі, людзі былі задаволены, а чыгунка мела даходы з білетаў. А сёння? Цяпер цягнік ад'язджае а 6.30, але толькі ў Бельск, адкуль а 9.25 вяртаецца ў Чаромху. Хто ім едзе назад? Амаль ніхто, усяго некалькі чалавек. Мясцовыя ўлады прапанавалі прадоўжыць маршрут гэтага цягніка ў Беласток, а цягнік, які ад'язджае а 8.10 перасунуць на 10.30. Такое вырашэнне задаволіла б усе бакі. ПКП мела б большыя даходы з білетаў, паколькі цягнік а 6.30 курсіруе толькі ў перыяд навучальнага года.

Многія пасажыры гавораць, што чыгуначныя ўлады робяць усё, каб знеахвоціць сваіх кліентаў. І я, як чыгуначнік, таксама прыкмячаю гэта, бо як вытлумачыць факт, што ліквідуюцца рэнтабельныя маршруты, а ўтрымоўваюцца абы-якія.

Гартаючы раённы расклад цягнікоў на шляхах Седльцы — Чаромха — Гайнаўка і Чаромха — Беласток можна заўважыць, што прамыя цягнікі курсіруюць толькі з Седльцаў у Гайнаўку і ў Семяноўку. Раней з Седльцаў ездзілася ў Беласток. Відома, сувязь паміж двума ваяводскімі цэнтрамі неабходная.

А хто едзе з Чаромхі ў Гайнаўку а 10.22? Ведама, што не школьнікі і не рабочыя. Мне здаецца, што гэты цягнік прыдбаны спецыяльна для чыгуначнікаў-турыстаў з дырэкцый ПКП з Седльцаў і Варшавы.

Кажуць, што рака Буг за Сямяцічамі каля чыгуначнай турыстычнай базы Франолаў так высахла, што можна яе перайсці пешшу. А Семяноўскае вадасховішча маніць гараджан! І вось чыгуначная вярхушка карыстаецца ўсімі дабрадзействамі прыроды і таму „дапасавалі" новы расклад для сваёй выгады. Прымаўка кажа: „Бліжэй цэлу свая кашуля, чым суседава".

Тут справа не ў эканоміцы. Пасажырска-гандлёвае бюро ЦДОКП ведае, што ўлада за імі і што іхніх рашэнняў ніхто не адменіць. Іншая прымаўка сцвярджае: „Не ўсім усё дазволена". Ведаюць гэтую праўду чыгуначныя чыноўнікі, якія склалі новы расклад на летні сезон.

**УЛАДЗІМІР СІДАРУК**



 

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**5 красавіка 1990г.**

(...) „Trybuna" (раней — Ludu) прысвяціла ажно цэлую старонку беларусам. Во якія залёты да нас ад цяперашніх посткамунякоў. Каб так калісь, то гэта мела б вялікае значэнне. (...)

**7 красавіка 1990 г.**

На ўстаноўчай канферэнцыі Тэрытарыяльнай Рады БДА ў Гайнаўцы (старшыня — Люда Кісьляк). Шматлюдная, але нудная, таму і прамаўлялася даволі цяжка. Дарэчы, не толькі таму. Перспектывы дзейнасці скромныя. Не столькі, можа, па прычыне польскага крызісу, колькі менавіта ад слабога актыву. Але важнае, што завязалася арганізацыя і, можа быць, надыдуць лепшыя ёй часы...

На абедзе ў актывіста Варанчука ў Вялікіх Пасечніках, дзядзькі Іры Парфенюк (былі: Стахвюк, Максімюк, Кісьляк, Бушка, Майсеня з нейкім саветам, Давідзюк). Стамляючае застолле, хоць людзі прыветныя і нават патрыятычныя, з некаторай начытанасцю.

Аціхае эйфарыя першапачатковага арганізацыйнага зруху, трэба брацца за будні, за драбноцце справаў.

**10 - 04 - 1990 г.**

Проста ад рукі напісалася „Ноч Віялеты". Ад вялікага перапынку? Матыў прывёз з Крынак (іх там мноства, пісаць — не перапісаць!).

Літву, відаць, задушаць... Еўропе Масква важней; ніхто не прызнаў Вільнюса. Навука і нам.

**12 - 04 - 1990 г.**

Зноўку пагусцела беларуская палітычная тэматыка ў друку і TV („Wokanda", „Tygodnik Białostocki", „Gazeta Współczesna"; у варшаўскім тэлебачанні — заўчора: я, учора: Тарасэвіч, сёння: Стахвюк). Вельмі добрае выступленне Віктара, і вельмі добры артыкул Алега Латышонка: „Białoruskie Zjednoczenie Demokratyczne, strategia i taktyka partii mniejszościowej". Растуць лідэры!

Па просьбе Траяноўскага, шэфа беластоцкай пасляпарпаўскай сацыял-дэмакратыі, меў я з ім інфармацыйную гутарку (12-14 гадз.). Шукае ён саюзніка, вядома. Пажывем-пабачым... (...)

**18 - 04 - 1990 г.**

Сёння — сігнальны нумар „Czasopis" (успамагае яго БДА). Інтэлігентна зробленае выданне. Можна сказаць: беларуская газета на польскай мове. Вельмі патрэбная ў бягучы момант.

Нарэшце прыехала ў Беласток — Валянціна Трыгубовіч, шэф замежных справаў БНФ „Адраджэньне". Наладжваецца наша сур'ёзнае супрацоўніцтва з імі, хоць ягоны пачатак даволі выпадковы (Трыгубовіч з'явілася на падставе запрашэння М. Гайдука, які зацясаўся ў сябры Сойму БНФ; ну і трохі штурхалі „адраджэнцаў" БАСаўцы). Вывезе яна ў Менск м. ін. амерыканскі друкарскі камп'ютэр... (...)

**22 - 04 - 1990 г.**

Учора — з Трыгубовіч на пасяджэнні Тэрытарыяльнай Рады БДА ў Гарадку. У яе няма паўнамоцтваў дзеля нейкай дамовы з намі (прыехала толькі па камп'ютэр). Нам трэба перш за ўсё гаспадарчае супрацоўніцтва з кааператывамі БНФ (Беласточчына душыцца ад лішкаў бульбы і мяса).

Заўтра будзе ў Гародні — Стахвюк, м. ін. і па гэтай справе. (...)

На маё здзіўленне — яшчэ ўдзень — зноў заявіліся ў мяне высланнікі варшаўскай „Салідарнасці", ад Вуйца (тая ж Даманеўская + нейкі хлопец). Чаму няма ў нас паразумеласці з беластоцкай „Салідар."? — тлумілі мне галаву (рыхтык, як сёння супрацоўніцтва таронцкага „Związkowca"!).

З Трыгубовіч — у Лёніка (узяла ў яго інтэрв'ю ў „Мастацтва Беларусі"). Сёння — ён зноў у мяне: думае выдаваць „Голас Гарадка" (друкуе шэраг рознатыпных лістовак на гміну, м. ін. лацінкаю).

Дзверы не зачыняюцца ў маю кватэру. Пасля 27-га павінна быць цішэй (гэта ж не парламенцкія выбары).

**24 - 04 - 1990 г.**

Заўтра выедуць апошнія экіпажы ад нас, у дапамогу беларускім выбарчым камітэтам. Падобнае на тое, што мы значна кантралюем сітуацыю ў Гайнаўцы з Бельскам ды іхных ваколлях, у Гарадку, Нараўцы, Нарве, Орлі, Чыжах, Кляшчэлях, Чаромсе, Белавежы, Станцыі-Нурэц; часткова ў Мілейчыцах; фрагментарна ў Боцьках, Міхалове, Заблудаве, Шудзялаве, Крынках... Удалося больш, чым думалі (разлічвалі на 3—5 гмінаў з уплывамі БДА).

У Беластоку спадзяемся атрымаць к. 10% галасоў.

Беларускі выбарчы камітэт у Бельску пачаў выпускаць уласную газету „Puls", на цалкам прыстойным узроўні (можа быць, нешта накшталт яе рушыцца і ў Гайнаўцы). (...)

Ганебнае дамаганне БССРам Вільні ў выпадку адколу ад СССР Літвы! Не ўдасца ім нацкаваць беларусаў на літоўцаў, бо мы як нацыя ледзь не дыхаем на паніхіду.

*(працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*

*— спробы нацкаваць беларусаў на літоўцаў, палякаў ці ўкраінцаў здзіўляюць сваёй незарыентаванасцю ў фактычным вынішчэнні беларускай нацыянальнай свядомасці партыйнымі ўладыкамі БССР. Без гэткае свядомасці аніякая правакацыя не ёсць магчымаю. Таму лагічным будзе лічыць, што тая чорная інспірацыя ішла з недаінфармаванай Масквы, а не з Менска. Толькі ў Крамлі маглі дадумацца зафундаваць нам аналагічна свой Карабах або Прыднястроўе, з дапамогаю чаго расійская імперыя заганяе назад суседнія народы пад шырокае крыло. Апошнім часам Грузію.*

*У Беларусі няма як палітычна скандаліць ды праліваць кроў. У ёй трэба дваццаці гадоў, новага пакалення, каб аднавіць беларускую нацыю. У тым і ўвесь парадокс сітуацыі: Беларусь пераароблена ў правінцыю Расіі аднachasна без найменшае магчымасці далучыць яе да Расіі, у кантэксце міжнародным... Таму гэтая дзіўная краіна мусіць вяртацца да роднае мовы, культуры, гісторыі. Яна не хоча таго, але зробіць тое. Так сказаць, пад тэрорам гісторыі.*

# ЗАБЛУДАЎСКАЯ ДАЎНІНА

Назва горада звязана са знаходжаннем „за Блудаўскай пушчай". Пасяленне існавала ўжо ў пачатку XVI стагоддзя. Вядома, што ў 1525 годзе польскі кароль і вялікі князь літоўскі Зыгмунт Аўгуст падарыў Заблудаўшчыну праваслаўнаму баярыну літоўскаму — па палітычнай прыналежнасці, а беларускаму па культурных абычаях — Аляксандру Хадкевічу (тады ўжо таксама уладальніку Гарадка). Быў ён ваяводам наваградскім. Сын яго — Рыгор Хадкевіч дабіўся даволі вялікага прызнання сярод літоўскай знаці. Быў вялікім гетманам літоўскім, значыць, галоўнакамандуючым войскам Вялікага княства Літоўскага, быў каштэлянам віленскім, значыць, найвышэйшым чыноўнікам у гэтым сталічным горадзе. Быў старастам гродзенскім і магілёўскім. Вось гэтаму Рыгору Хадкевічу Заблудаў абавязаны ўдзячнасць за звыш 400 гадоў сваёй гісторыі.

Аб цяперашнім Беластоку яшчэ і птушкі не шчабяталі, як на ўскраіне Блудаўскай пушчы, над рэчкай Рудняй (правы прыток Нарвы) азваліся сякеры і найлепшыя цесляры пана гетмана пачалі сячы лес на пабудову царквы і касцёла, ды яшчэ прытулку для бедных і бяздомных, а ўсё гэта папоўніла яшчэ пабудова папоўкі і плябаніі. Такая была воля гетмана Рыгора, выяўленая 7 чэрвеня 1563 года ў Беланавічах. З гэтага акта можна яшчэ даведацца, што для пабудовы дома святару гетман адвёў месца „ля вуліцы, вядучай ад двара да царквы".

Значыць, былі ўжо ў Заблудаве і вуліцы, і быў двор — на другім беразе ракі, на ўзгорку, вялікі, з пабудаваным падзямеллем. Праіснаваў двор, мабыць, да першай сусветнай вайны. Стаяў у прыгожым парку, разбітым на англійскі лад.

Цяпер аб усім гэтым напамінаюць тут толькі старыя, ужо засыхаючыя дрэвы і малапрыкметныя рэшткі колішніх развалін.

Уладальнікі Заблудава змяняліся. Ніколі не абыходзілі яго войны. Найлепшы свой час горад перажыў пад уладай Рыгора Хадкевіча. Той жа Р. Хадкевіч заснаваў у Заблудаве нават друкарню. Іван Фёдараў са сваім памочнікам Пятром Мсціслаўцам надрукавалі тут „Евангелле вучыцельнае" ў 1569 годзе і „Псалтыр з Часаслоўцам" год пазней. Першая з іх — „Евангелле" — кніжка багата ілюстраваная, друкаваная аж на 814 старонках.

У канцы XVI стагоддзя Заблудаў перайшоў у рукі Радзівілаў. І так ужо было да навейшых часоў. Багуслаў Радзівіл заснаваў ратушу з дзвюма вежамі. У 1857 годзе ў Заблудаве працавалі тэкстыльныя фабрыкі і дубільні (гарбарні), а таксама два паравыя млыны.

З помнікаў старадаўнасці цікавым аб'ектам з'яўляецца царква. Затым пабудавалі каля яе манастыр. Згарэў ён у XVII стагоддзі. Мураваны храм заснавала графіня Дэмбінская. Пабудову пачалі ў 1845 годзе, закончылі ў 1854 годзе. Трыццаць гадоў пазней пабудавалі яшчэ званіцу (яе вышыня — 34 метры). Царкву абгарадзілі каменным парканам. У храме багата фрэскаў ды карцін, прыгожы іканастас з адметнымі іконамі.

У 1931 годзе ў Заблудаве пражывала 3 158 чалавек, у 1936—1937 гадах — 3 500, у 1978 — 1 768 і ў 1992 годзе — дзве тысячы асоб.

**ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ**

# РАЗВІТАННЕ З МІФАМ АБ ТАЛЕРАНТНАСЦІ БЕЛАРУСАЎ

## 2. Позірк у мінулае

Зазірнем у самую сівую летапісную старажытнасць. Па-першае, я хачу звярнуць увагу на папулярнае пытанне аб паходжанні беларусаў. Гэтае пытанне, як мы ўбачым, мае непасрэднае дачыненне да тэмы нашага доследу.

На маю думку, продкамі беларусаў было племя літва, якое рассялялася на вялікім абшары тэрыторыі сучаснай Гарадзеншчыны і Меншчыны. Я абапіраюся на наступныя звесткі. Дакладныя межы летапіснай Літвы даволі пераканаўча вызначыў Мікола Ермаловіч у сваёй кнізе „Па слядах аднаго міфа". Але на яго думку племя літва было балцкага паходжання. Па сведчанню ж іншых, літва не балцкая і, нават, не угра-фінская — як гэта лічыць Іван Ласкоў, а славянскага паходжання. Так, чэшскі даследчык П. Шафарык сцвярджае, што слова „літва" гэта скажонае слова „лютва". Славянскае ж племя велеты-люцічы добра вядомае гісторыкам і рассялялася яно таксама на тэрыторыях сучасных Гарадзеншчыны і Віленшчыны. Пазней, калі пачалося ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага, літва асімілявалася з іншымі славянскімі плямёнамі — крывічамі і дрыгавічамі, утварыўшы сучасных беларусаў. Сведчаннем таго, што люціцы-літва былі народы з мовай блізкай да суседніх славянскіх народаў з'яўляецца тое, што іх мова стала дзяржаўнай мовай ВКЛ (зараз яна завецца старабеларускай). Дык вось, нашы продкі здолелі захаваць праз стагоддзі сваю мову, хаця і аддалі сваю назву (літоўцы-літвіны) балцкаму племені жмудзі (у вялікай ступені праз недасведчанасць гісторыкаў, пра што гаварылася раней).

А зараз мы, урэшце, прыходзім непасрэдна да нашай тэмы — высвятлення асаблівасцей характару нашых продкаў. Па-першае, адна з назваў згаданага намі племя — лютва („люты") сведчыць аб далёка не рахманых паводзінах нашых продкаў і з'яўляецца сведчаннем даволі „крутога" нораву старажытных беларусаў. Другая назва нашых продкаў — велеты паходзіць хутчэй за ўсё ад стараславянскага слова „вялікі", што само па сабе з'яўляецца характарыстыкай народа.

Такім чынам, шматлікія гістарычныя і тапанімічныя крыніцы сведчаць аб падаўляючай прысутнасці стараславянскага, а потым і проста беларускага элемента на нашых землях. Дарэчы, прысутнасць балцкай мовы і тым больш цяперашняй летувіскай мовы на тэрыторыі ВКЛ наогул не згадваецца ў летапісах ці іншых крыніцах аж да XVI стагоддзя.

## 3. Старыжытная Русь. Полацкае княства

Пашукаем цяпер вытокі талерантнасці ў наступным гістарычным перыядзе — у часы старажытнарускай дзяржавы. Сапраўды Кіеўская Русь аб'ядноўвала шэраг славянскіх княстваў на вялікім абшары і на першы погляд была суцэльнай дзяржавай, дзе мірна суіснавалі Полацкае і Кіеўскае, Суздальскае і Ноўгарадскае і іншыя княствы. Але на самой справе, гэта было не зусім так. Добра вядома, што ўжо пачынаючы з апошняй чвэрці X стагоддзя ў Полацку незалежна ад Кіева княжыў Рагвалод, і нядаўна свядомыя беларусы святкавалі тысячагоддзе сваёй дзяржаўнасці. Дзейнасць Рагвалода сведчыць аб яго талерантнасці як дзяржаўнага дзеяча і зусім не аб нейкай „цярпімасці", што ёсць нашай тэмай. Менавіта з часоў Кіеўскай Русі мы бачым з боку палачан праявы не талерантнасці да чужой улады (кіеўскіх князёў), а наадварот — нецярпімасці і непрымірымасці. Сапраўды, пры Рагвалодзе Полацкая зямля імкнулася не толькі да свае незалежнасці, а нават далучыла да сябе Тураў. І хоць пазней (у 980 годзе) Рагвалод быў забіты, а Полацак на 28 гадоў трапіў пад уладу Кіева, наступныя пакаленні полацкіх князёў паказалі прыклады мужнасці і імкнення да дзяржаўнай незалежнасці. Найбольш уражвае жыццёвы шлях Усяслава Чарадзея, які княжыў 57 гадоў, пабываўшы і ў порубе — палоне кіеўскага князя Ізяслава, потым стаўшы нечакана кіеўскім князем, а ў рэшце рэшт, у канцы жыцця, у 1097 годзе ўзаконіўшага незалежнасць Полаччыны.

Захапляюць рысы нашых далёкіх продкаў — гордасць і непакора Рагнеды, нежаданне Усяславіваў жыць у „згодзе", а на самой справе па загадах кіеўскіх князёў... Як бачым, да талерантных іх паводзіны, іх характары вельмі і вельмі далёкія.

*(працяг будзе)*

**АНАТОЛЬ АСТАПЕНКА,**
**Менск**

# Гладка, а нават вельмі

15 і 16 ліпеня гэтага года прагучаў у Гарадку пяты Фестываль музыкі Маладой Беларусі „Басовішча'94". Арганізавала яго, як і ў мінулых гадах, Беларускае аб'яднанне студэнтаў у Польшчы пры дапамозе гміны Гарадок. У фестывалі ўдзел прыняло адзінаццаць музычных гуртоў з рэгіёна і замежжа.

Нягледзячы на факт юбілею, сёлетняе „Басовішча" арганізавалася без празмернай пампезнасці, так характэрнай усякім больш ці менш круглым гадавінам. Адзіным фактарам, які засведчыў пра дасягненне „Басовішчам" пяцігоддзя было пяць бутэлек шампанскага на адкрыццё мерапрыемства. Адкаркавалі іх: Яўген Вапа, Багдан Сіманенка, Барбара



*Гурт "Крама" перад канцэртам.*

Пякарская, Тамаш Андраюк і войт гміны Гарадок Яўген Семянюк. Пасікалі крышку шампанскім на публіку (такая ўжо завялася традыцыя) і лічы, што юбілей адзначаны. А далей ужо пайшло тое, што ўсе чакалі — значыць музыка. Музычны пачатак фестывалю даў гурт „As" з Беластока — прадстаўнік тае



*У "Басовішчы" ўдзельнічалі людзі розных узростаў.*

плыні ў сучаснай музыцы, якая набывае сабе штораз большую папулярнасць, death-chodnik. За ім выступіў квартэт з Беластока „Белы сон", музыкаў якога добра ведаем з іншых канфігурацый. Спявае ў гурце Марта Драль — асоба яшчэ вельмі маладая, але якая ўжо здабыла сабе вядомасць, выступаючы на шмат якіх іншых беларускіх мерапрыемствах. На акустычнай гітары іграе Ян Хоха (колішняя „Альбаросіка"). „Альбаросіка" вызвілася як гурт надзвычай няўстойлівы — увесь час не шанцавала яму з клавішным музыкам або яшчэ штосьці іншае не ладзілася. Урэшце Я. Хоха сустрэў Яўгена Маліноўскага і Даніела Матысюка — узнікла зусім новая ідэя гурту, а таксама і ідэя новай музыкі, спеў пад дзве гітары, акустычную і электрычную, у другім плане шэлест ударных інструментаў. На „Басовішчы" гурт „Белы сон" выявіў нам перад усім мастацкую якасць таго найважнейшага інструмента — чалавечага голасу. У гэтым плане гурт „Белы сон" быў унікальнай з'явай сёлетняга фестывалю. У далейшым пайшлі гурты-прадстаўнікі моцнага рытму і металічнага забою — асноўная музычная плынь „Басовішча". Выступілі: гайнаўская „Awaria", гайнаўскі „Szwejo", міхалоўскі „Crusader", intercity Бельск-Беласток „Брага" і адзіны ўдзельнік конкурсу „Басовішча" з замежжа — менскі „Палац". Вось гэты апошні гурт паказаў абсалютна прафесійны ўзровень, рэпертуар надзвычай арыгінальны і цікавы, які поўнасцю ўсведамляе слухачу багацце беларускага фальклору і музычнай традыцыі. Калі ідзе пра „Брагу" і „Szwejo", дык гурты гэтыя гады два ці год таму ўяўлялі сабою ўсяго школьны ўзровень. Сёлета, нечага затойваць, да прафесіяналаў ім яшчэ трошкі бракуе, але ўсяго трошкі. Бракуе ім, мабыць, тае чысціні і празрыстасці гуку, якая характэрная была для „Палаца" ці гуртоў-гасцей „Басовішча". Прагрэс, аднак жа, які зрабілі згаданыя тут нашы гурты быў аж надта відавочны — гэта ўжо не школьныя калектывы. Гваздом выступу „Брагі" была кароткая гітарная ўстаўка „Люблю наш край" накшталт „Зорнага штандару"



*Пасля танцаў "пого" адпачываюць Уладзімір Каральчук, Віктар Стахвюк і Мікола Міхноўскі.*

Джымі Хендрыкса. Асацыяцый такіх было болей — варта тут згадаць хаця б такую, што гітарыст „Брагі" карыстаецца белым фендэрам, а ў час канцэрта лаўрэатаў, калі пачала хрыпець апаратура, той жа гітарыст, пад акампанемент адной перкусіі, зноў адшпарыў кавалак з Хендрыкса, чым і здабыў сэрцы гарадоцкай публікі.

Пасля конкурсных канцэртаў згаданых тут шасці гуртоў з кароткімі ўступамі выступілі госці „Басовішча" — „Новае неба", „Крама" і „Мроя". Набліжалася ўжо трэцяя гадзіна раніцы, большая частка публікі была стомленая да немажлівасці, калі на сцэну ўвайшоў гурт „Tornado" з Беларусі і... усё-такі здолеў падняць туманы пылу каля сцэны. Гэтак закончыўся першы дзень „Басовішча". Трэба тут дапоўніць, што разам з канцэртамі ўдзельнікаў конкурсу ў Барыку праходзіў плебісцыт на найлепшы гурт з Беласточчыны. Узнагароду для такога гурту прызнаў войт гміны Гарадок.

Другі дзень „Басовішча" пачаўся ад прызнання ўзнагарод. Было іх некалькі, прычым не было падзелу на першае, другое ці трэцяе месцы. Узнагароду Беларускага аб'яднання студэнтаў атрымаў гурт „Белы сон" — за выключныя мастацкія якасці. Менскаму „Палацу" дасталася ўзнагарода беларускай эміграцыі ў ЗША. Пераможцам стаў гурт „Брага" — у плебісцыце прыняло ўдзел каля двухсот чалавек, больш за палову з якіх прагаласавала менавіта за „Брагу". Таксама ж гэты гурт атрымаў узнагароду Радыё Беласток — сесію гуказапісу ў студыі беластоцкай радыёстанцыі.

На пачатак выступілі заваёўнікі ўзнагарод: „Белы сон", „Палац" і „Брага". Ад „Брагі" публіка і ашалела, брагі было ёй мала і мала... У такіх нялёгкіх умовах на сцэну ўваходзіў госць „Басовішча" — „Kasa Chorych" з Беластока. Упершыню на гарадоцкім фестывалі выступіў польскі гурт. Адзначу тут, што наш мясцовы гурт, з Беластока, а не з Варшаўкі ці скуль там яшчэ. Зайграў моцна і чысценька, чым, дарэчы, і перахіліў сімпатыю публікі на свой бок. Недахопам гэтага выступу, на асабістую думку аўтара, была адсутнасць класічнага „белага" блюза ў рэпертуары гурту — усяго адзін кавалак. Пасля „Kasy Chorych" з поўнымі канцэртамі выступілі „Новае неба", „Крама" і „Мроя". Рэкорд папулярнасці пабіла „Крама", але „Мроя", якая і закончыла „Басовішча '94", яшчэ раз пераканала, што гурт гэты з'яўляецца абсалютным нумарам адзін у лізе беларускага гард-рока. „Басовішча" закончылася вельмі прыемным момантам — „Мроя" з удзелам музыкаў „Новага неба", „Крамы" і „Tornado" выканала свой вялікі гіт „Я — рок-музыкант".

**С. ПЕЎНІК**
**Фота Міры Лукшы**



*Амаль эратычная сцэнка.*

Зорка
Старонка для дзяцей

ЯРАСЛАЎ ПАРХУТА

*СКАЗ ЦЯПЕР Я ПАВЯДУ ПРА ЛЯНОТУ-ЗЛЫБЯДУ*

## МУРАШЫК

Вам вядома, малышы,
Як працуюць мурашы.
...А ў мурашніку адным,
Што ў бары стаіць сівым,
Вырас неяк абібок.
Ён ад дому — ані крок!
Усяго, што мог рабіць —
У цянёчку лынды біць.
Да таго ж хвальком ён быў,
Кулаком у грудзі біў:
— Хоць сягоння я магу
Ліса цапнуць за нагу
Ї, як толькі захачу,
Хвост на памяць адкручу!..
Ліс пачуў і — тут як тут:
— Хто жадае мне пакут?!
Зледзянела ўся душа
У задзіры Мураша.
Ды назаўтра на суку
Выхваляўся Павуку:
— Калі так — да матузка
Прывяжу Маладзіка.
Светла бегаць будзе ў гай —
Хоць ігліцу ты збірай!
А Павук стары са сну
Ножык точыць аб сасну...
Скалануў малога страх
(Не сусед, а проста жах!).
Патырчма на дол зляцеў
Ї на доле тым самлеў.
Потым — зірк туды, сюды:
Мора перад ім вады!
— Цётка Люгашка, — сказаў, —
На той бераг перапраў!
— Прэч ад купіны, гультай,
Нам канцэрта не зрывай!..
Ї Мурашык наш бягом
На лясны аэрадром.
Стаў прасіцца ў Страказы:
— Да сваіх ты завязі!
—Заляцець магла б я ў бор —
Не заводзіцца матор.
Пра бяду пачуў Слімак —
Не смяяўся зроду так:
— Як хвасты круціць — дык мог.
А цяпер — ні рук, ні ног!..
Сеў Мурашык пад кустом,
Слёзы льюцца ручаём:
— Што рабіць мне? Як мне быць?
Як мне мора пераплыць?
Раптам бачыць: з-за гары
Коцяць нешта Камары.
— У арэхавай шкарлупцы
Будзеш ты нібыта ў шлюпцы!
Так што, браце, не бядуй,
Бяры тычку і кіруй!
Шчыра кажучы, з нязвычкі
Дрэнна слухалася тычка.
Ды нарэшце наш герой
Пераплыў на бераг свой.
А на беразе на тым
Мітусіліся браты:
— Вечна ў нешта ўліпнеш ты!..
Брацца ўжо за розум час!
Не падводзь ты болей нас!
Ї Мурашык б'е чалом:
— Перастану быць хвальком!
Не хачу гультаяваць —
Буду з вамі працаваць!..
Сапраўды, з пары тае
Ад братоў не адстае...



*На фестывалі „Басовішча" ў Гарадку.* **Фота М. Лукшы**

## БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ЖАРТЫ

— Ты будзеш есці ўчарашні крупнік?
— Буду.
— Ну, дык прыходзь заўтра.

* * *

— Разумееце, не можам прыняць вашага сына ў музычную школу.
— Чаму?
— Слыху ў яго няма.
— А божачкі ж! Няўжо аглух? Учора ж ён яшчэ ўсё чуў!

* * *

— Няўжо ты, Петрусёк, не можаш скласці ў галаве два і пяць, і лічыш на пальцах?
— Вядома. Галава ў мяне адна, а пальцаў цэлых пяць.

* * *

— Вось каб мне такія доўгія вушы, як у зайца, тады я вельмі лоўка падхопліваў бы ўсе падказкі, — заўважыў Коля.
— Не, я не згодзен, запярэчыў Вася.
— Доўгія вушы доўга трэба мыць!

* * *

Машыніст рэзка затармазіў цягнік. Пасажыр, які спакойна драмаў, зваліўся з лаўкі і прамовіў:
— Во гэта дык упаў — аж цягнік спыніўся.

* * *

— Чаму ты перад сном прычэсваешся?
— Трэба. Бывае, убачу сон, што я ў гасцях, дык сорамна будзе непрычэсанаму.

* * *

Сын: — Тата, сёння я адзін з усіх ва ўсёй школе мог адказаць настаўніку.
Бацька: — А што ён пытаў, сынок?
Сын: — Хто разбіў акно.

## СЯСТРЫЧКІ

Каця і Насцечка — сястрычкі. Ходзяць у дзіцячы сад. Але Каця старэйшая за Насцечку і ходзіць у старэйшую групу, а Насцечка — у малодшую. Аднак абедзве яны такія гарэзы, такія свавольніцы, што мама гаворыць: „Ї не зразумееш, дачушкі, каторая з вас старэйшая, а каторая малодшая..."

Сёння сястрычкі як прыйшлі з дзіцячага сада, дык адразу і заспрачаліся:

— Аддай, гэта мой мішка! — сказала Каця.

— Не, мой! — прыціснула да грудзей плюшавага мішку Насцечка.

Каця ўсё ж выхапіла ў Насцечкі мішку, пабегла да кардоннай скрыні, дзе ляжалі яе цацкі, і схавала там мядзведзіка.

— А ў мяне лепшыя цацкі! — кінулася да сваёй скрыні Насцечка.

Што тут пачалося!

Адна ў адной выхопліваюць цацкі. Ї абедзве галосяць.

Тады тата дастаў з халадзільніка аднолькавыя порцыі марожанага і кажа:

— Вось вам, дачушкі, толькі не плачце.

Сястрычкі супакоіліся, з'елі марожанае і пачалі гуляць у школу.

Ї зноў штосьці не падзялілі. Ї зноў — сварка.

Тата не вытрываў:

— Хоць дадому не прыходзь. Ніколі спакою няма...

Сястрычкі сцішыліся, разгубленa ўтаропіліся на бацьку. Затым пашапталіся аб нечым, і наперад выступіла Каця:

— Мы болей не будзем сварыцца.

Насцечка згодна кіўнула галавой і сказала:

— У садку мы не сварымся, бо там у нас адна вялікая скрыня з цацкамі. Адна на ўсіх.

— Так і мы зробім, — абняла тату Каця.

— Вось і згода ў сям'і, — ціха сказала мама.

Потым ужо, заснуўшы, Каця і Насцечка ўсміхаліся — бачылі добрыя сны.

А ў куце стаяла адна скрыня з цацкамі.

**АЛЕГ ФОМЧАНКА**

З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

## РЭЧЫЦА

Рэчыца... Яе назва пайшла ад памяншальнага варыянта слова „рэчка", „рака". З даўніх часоў існуе паданне, паводле якога вынікае, што там, дзе сёння горад, некалі былі толькі парослыя рэдкім лесам пясчаныя выспы ды імшарыны. Ехалі неяк аднаго разу збройныя людзі атрадам, аглядалі межы свайго княства, каб ворагі не наскочылі часам ці іншага ліха не здарылася. А прыкладна граніца праходзіла ў той час у тых мясцінах па невялічкай рачулцы без назвы. На адным беразе — валадарства аднаго князя, на другім — другога. Часта парушалася мірная праца людзей тады. То далёкія ворагі нечакана наедуць, то блізкія суседзі вырашаць напасці. Толькі слупы дыму падымаліся ды енкі людзей паўсюдна былі чуваць. Едуць гэта, едуць вершнікі. Ціха перамаўляюцца паміж сабою ды азіраюцца па баках, каб на якую засаду не выехаць, каб не наляцелі з супрацьлеглага берага. Расцягнуўся аршак ваяраў.

Сонейка тым часам узышло і сваімі промнямі лашчыла ўсё навокал, птушкі ажылі. Нішто бяды не прадказвала. Вершнікі ўжо прызвычаіліся да нялёгкай ратнай справы і таму мала звярталі ўвагу на навакольную прыгажосць, а болей усё ж услухоўваліся. Ї, як аказалася, рабілі гэта не дарэмна. Толькі пад'ехалі пярэднія да броду праз раку, адзін з маладых дружыннікаў, што валодаў тонкім слыхам, прамовіў, звяртаючыся да сваіх паплечнікаў: „Скачуць! Вершнікі скачуць!" Воі ўжо ведалі, што ён ніколі не памыляўся, і таму старшы коратка крыкнуў: „Па кустах! Падрыхтавацца!" Атрад адразу рассыпаўся па густым прыбярэжным алешніку. Неўзабаве людзі ўбачылі і тых, хто ехаў. Крокаў за трыста-чатырыста ад іх скакалі чалавек сем, а за імі, ужо даганяючы, вялікая колькасць узброеных чужынцаў. Тыя нават не стралялі, спадзяваліся забраць у палон яшчэ да броду. У засадзе напружана стаіліся і чакалі, кожны трымаў у руках надзейны ў такіх справах лук. Да ўцекачоў была ўжо толькі нейкая сотня крокаў. Нават пачулі, як адзін з іх закрычаў: „За рэчыцай наша зямля! Там яны нас не чэпяць!" Разгарачаныя коні ўляцелі ў раку. Але пагоня таксама не збіралася адставаць. Тады старшы з тых, што былі ў засадзе, махнуў рукою. Засвісталі стрэлы, і сярод чужынцаў пачалі падаць людзі.

Потым высветлілася, што на пасольства князя напалі на суседніх землях, калі яно толькі туды выехала. Давялося, усё кінуўшы, уцякаць.

Забітых сваіх пахавалі на беразе. Распавядаючы, дзе ўсё адбылося і дзе знайшлі апошні прытулак яговыя падначаленыя, галоўны з пасольства адзначыў, што „над рэчыцай". Адтуль ужо потым і назва пайшла — Рэчыца.

**АЛЯКСЕЙ НЕНАДАВЕЦ**



# ЛІПЕНЬ

У канцы мінулага стагоддзя на Кіеўшчыне быў знойдзены збан, зроблены ў IV стагоддзі нашай эры, на якім штампікамі чатырох відаў выціснуты ўзоры. Але вядомы археолаг і гісторык Б. Рыбакоў лічыць, што іх нельга назваць арнаментам. Ён пераканаены, што збан з'яўляецца рытуальным посудам-календаром для летніх маленняў аб пасланні і спыненні дажджу. Стваральнік збана ўлічыў усе фазы развіцця яравой пшаніцы — ад з'яўлення расткоў да выспявання зерня, неабходныя для росту збажыны дажджы. Ці быў гэта посуд прыналежнасцю пэўнага рытуалу, ці толькі „вызначаў" тэрмін, калі трэба было прасіць Перуна, каб паслаў ці спыніў дождж, ён усё ж сведчыць пра высокі ўзровень агратэхнічных ведаў прыдняпроўскіх земляробаў. Выціснуты на збане і малюнак „грамавога знака" — кола з шасцю спіцамі, добра вядомы на тэрыторыі Беларусі. Лічаць, што так пазначаны дзень 20 ліпеня (цяпер Ільля), калі ўшаноўвалі Перуна, „тварца маланак", а верагодней — даўняга бога славян-земляробаў Рода, уладара свету, якому „ставілі трапез" яшчэ ў XVI стагоддзі. Ды ўсё ж продкі беларусаў далі сёмаму месяцу імя ад назвы дрэва, якое абувала, карміла і лячыла, а таксама аберагала ад маланкі. Пах квітнеючых ліп быў, відаць, даражэй і бліжэй сэрцу, ён падказваў, што прыйшла пара рыхтавацца да жніва.

**ЗДЗІСЛАЎ СІЦЬКО**

# ПРА ЛІПЕНЬ

*Ліпень косіць і жне, доўга спаць не дае.*
*Ліпень пякучы, але даручы.*
*Хто ў ліпені на полі пацее, таго ўзімку і печка пагрэе.*
*Што летам народзіцца, тое зімой прыгодзіцца.*

# РЫСЬ У ЛАЗНІ

Старэнькі аўтобусік, натужліва вуркочучы, паціху аддаляўся ад горада. Праз гадзіну на прыпынку „Бярозавы гай" я вылез з яго і агледзеўся. У снежным полі, як галодны воўк, скуголіў вецер, шпурляючы ў твар сухія камякі снегу. Ад „Бярозавага гаю" да невялічкай, затуленай з усіх бакоў спрадвечным лесам, вёсачкі, дзе жыве дзядзька Ігнась, чатыры вярсты. Сёння з дзядзькам Ігнасем будзем паліць лазню.

Падняў на плячо рукзак і рушыў па цаліку, час ад часу збіваючыся са сцежкі па калені ў снег. Наперадзе нічога не было відаць: ні лесу, ні старога закінутага хутара, які заўсёды быў маім арыенцірам. Гуляла мяцеліца.

Зімовы дзянёк, што камароў насок. Пакуль прыйшоў у вёску, добра звечарэла. На небе дзе-нідзе праглядвалі буйныя зоркі. У хаце гарэў агонь. Я ўвесь белы, абмяцелены, як здань, не стукаючыся, адчыніў дзверы.

— Нічога, нічога, — сказаў дзядзька Ігнась і ступіў мне насустрач, дапамог зняць з плячэй рукзак, бо пальцы мае зледзянелі і не слухаліся.

— Калі не будзе зімою бела, то не будзе ўлетку зелена, — гаварыў ён, дапамагаючы мне распранацца. — Думаў, што і не прыйдзеш сёння. Але нічога, нічога... Самы раз. Дровы сухія, вады нядаўна нанасіў.

Праз нейкі час выйшлі з хаты і накіраваліся да лазні, якая стаяла за гумном, непадалёк ад лесу. Падышлі. Дзядзька Ігнась намацаў рукою выключальнік, пстрыкнуў ім, і мы падаліся ў лазню. Зайшлі — і аслупянелі. Хачу сказаць: „Дзядзька Ігнась, уцякайма", а языком павярнуць не магу, як праглынуў яго ўсё роўна.

На шырокім дубовым палку, на тым самым месцы, дзе мы кожны раз лупцаваліся пахучым бярозавым венікам, цяпер галавой да нас ляжала рысь, вялікая дзікая кошка. Вочы жоўтыя, злыя, вушы вострыя, з кутасікамі на канцах.

— Ацю! Ацю! — раптам крыкнуў дзядзька Ігнась і схапіў ля печы палена.

Рысь падхапілася на ногі, прыгнулася — і скокнула... Я не паспеў адхінуцца ўбок: моцны ўдар у грудзі паваліў мяне на падлогу. Калі крыху ачухаўся, дзядзька Ігнась сказаў:

— Прабач, гэта я ва ўсім вінаваты. Вечарам, калі насіў у лазню ваду, пэўна, забыўся зачыніць дзверы.

— Можа, і рысь папарыцца хацела, — пажартаваў я.

— Будзем паліць лазню? — азваўся дзядзька Ігнась.

— А як жа. Страх трэба змыць. Ніколі б не падумаў, што такое здарыцца.

Хутка ў печы яркім полымем загарэліся дровы.

**ІВАН ГАЛУБОВІЧ**





*Прыгажуні з Сакоў.* **Фота Г. Кандрацюк**

# ЛАГАГРЫФ



1. папулярная на Беларусі клубневая расліна, 2. расліна сямейства гарбузовых, 3. гароднiна з сакавітым аранжавым коранем, 4. белы пажыўны напітак, 5. дваровы спявак, 6. нясе яйкі.

Вылучаныя літары складуць назву сельскагаспадарчай прылады з зубамі.

# ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

8

**У ГРУБЦЫ. ДЗІК-САНІТАР**

Наш сабака сябраваў з катом, насуперак казкам і байкам аб даўняй і трывалай варожасці паміж іхнімі дзядамі-прадзедамі. У нашым доме царавала самае сапраўднае сяброўства. Яно завязалася даўно: Дзік яшчэ ні разу не ліняў, а кот ледзьледзь адскочыў ад падлогі, мёрз без матчынага догляду і, шукаючы жывога цяпла, умошчваўся на сон каля сабакавага жывата. Дзік пагадзіўся: так было цяплей і яму самому.

Дом наш, так-сяк скіданы на жывую нітку нядбалымі рукамі няўмекаў, быў страшэнна халодны. Пліту палілі ўдзень, а грубку — рана і ўвечары. Зіма яшчэ не кончалася, а ў нас вылецела ў комін дваццаць восем кубаметраў бярозавых дроў — цэлы гай! — і два грузавікі торфу.

Усё роўна пасля таго, як зачынялі юшку, прыстойная цеплыня трывала ўсяго некалькі гадзін. Пакуль печ не астыла, туды закладалі абярэмак дроў: угрэюцца, крыху насохнуць, лягчэй будзе іх распальваць.

Аднойчы наша кацяня, шукаючы ўтулку, улезла ў грубку, за дровы, і соладка заснула.

— А ў нас зноў лядоўня! — Гаспадыня вярнулася з магазіна і пахукала ў азяблыя рукі. — Трэба брацца за печ.

Аблупіла з палена стужку бярosты, нашчапала смольных лучынак. Распалка ўзялася гарэць адразу ж, пакрысе агонь перапоўз на таўсцейшыя паляніакі.

Дзік з відавочным задавальненнем наглядаў за працэдурай распальвання, ён любіў ляжаць каля расчыненых дзверцаў печы і зараз чакаў, калі ж яго пачне прыбываць таго жаданага цяпла. Праўда, цяпер трывожыўся: раз-пораз настаўляў то адно, то другое вуха — з-за дроў чуўся нейкі незразумелы шолах.

Раптам у печы нешта вякнула, загурчала, запляскалася, і з сярэдзіны, праціскаючыся паміж паленняў, выкацілася кацяня: на ім стала займацца поўсць.

Дзік скочыў, падгроб пад сябе катка і пакачаўся з ім па падлозе. Ката ахаялі, памазалі нос і апечаныя лапы вазелінам і забінтавалі.

— Ну і ну! — Гаспадар пачухаў Дзіка за вухам. — Давядзецца аддаваць цябе на курсы ратавання ахвяр агню.

Дзіка перш хвалілі ўсе хатнія, потым далучыліся і сябры, што завіталі на агеньчык і амаль сталі сведкамі той удала адхіленай кацінай бяды. Сабака шчодра ўзнагароджваўся самымі высокімі словамі падзякі.

Крытык Уладзя, чалавек чуллівы, нават крыху сентыментальны, скарміў на Дзіка каўбасу, якую нёс дадому, — там чакаліся госці.

— За спрыт і вынаходлівасць, — казаў крытык, не лішне было б адшкадаваць яму які-небудзь сабачы медаль!

Дзік спаважна павільваў хвастом, быццам разумеў, пра што ідзе гаворка, а разумеў ён з чалавечых слоў, як высветліцца пазней, значна больш, чым можна было ўявіць.

Перабінтаванага ката паклалі на канапу, ачуньвай сабе ў выгодзе! І тут зусім нечакана падаспела „хуткая дапамога". Сабака ўзлез на канапу, паздзіраў з катовых лап бінты і ахайна злізаў языком вазелін. Гаспадыня была памкнулася адганяць, але крытык Уладзя запэўніў:

— Дзейнічае паводле ўсіх правіл сабачай медыцыны. Пайду яшчэ па каўбасу.

— І варта, — падтрымаў я. — Яго сваякі залізвалі раны толькі сабе, а гэты і сябру даў рады...

— Відаць, у сабачай сліне нешта гаючае ёсць, — здагадаўся крытык.

Ад таго дня, калі пасля ранішняй прамінкі сабаку ўпускалі ў дом, хто-небудзь абавязкова папярэджваў:

— Хама, рыхтуйся на медагляд.

Сабака аббягаў прысутных, усяляк выказваў знакі прыхільнасці, стараючыся, калі ўдасца, і пацалаваць. Потым пераходзіў да ката і, прытрымліваючы яго лапаю, каб не ўцёк, вылізваў яму мызачку.

Кацяня цярпела да часу. Апечаныя мясціны перасталі аказвацца болем, і пацыент не толькі не прымаў сабачага лекавання, а нават — няўдзячны! — лупіў добраахвотнага доктара лапай поўху.

Дзік не помніў крыўды і пасля чарговай прагулкі зноў браўся за лекавыя працэдуры.

„Аперацыя Медагляд" у далейшым абыходзілася без сутычак, аж пакуль не была перанесена на іншы аб'ект.

Гаспадыня абварыла руку каля пліты. Боль утаймоўвалі як умелі: прыкладалі распараны чай, тарканую бульбу, перачакаўшы, мазалі жыжкай, выпаранай з крутых яечных жаўткоў і прысыпалі жоўтым пылам са спелых балотных кіяхоў. Ну, і вядома ж, лёгка забінтавалі.

Дзік не адыходзіўся ад Гаспадыні, заглядаў ёй у вочы, не ўмеючы іначай выказаць свайго спачування. А ўбінтавання не ўтрымаў, садраў абвязкі, як некалі ў катка, і пачаў лізаць абвараную руку.

— Ну, гэта ўжо залішне...

— Няхай, — расчулілася Гаспадыня. — Мне як быццам лягчэй.

Лягчэй-то лягчэй, але ад чаго? Ад усіх раней ужытых сродкаў ці ад сабачага клопату? Ніхто не высвятляў, абы рука гаілася.

*(працяг у наступным нумары)*

**МАКСІМ ЛУЖАНІН**

# КУПАЛЛЕ

Працяг са стар. 1

таксама ганаровыя госці Купальскага свята — пасол Рэспублікі Беларусь Георгій Таразевіч, консул Ігар Хадасевіч, міністр-радца пасольства Мікалай Петрушкевіч.

Там таксама можна было сустрэць карэнных белавежцаў і тутэйшых інтэлігентаў — Міхася Байко, спадарства Тамару і Сяргея Тарасевічаў, Барыса Руско, Пятра Байко. Афіцыйная частка пачалася а дзевятай вечарам. Пасля традыцыйных прывітанняў і прамоў пачаўся канцэрт. Сярод ганаровых гасцей былі таксама віцэ-міністр культуры і мастацтва Міхал Ягела, міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка, II сакратар пасольства РБ Уладзімір Каральчук. Энтузіязм выклікалі таксама ўдзельнікі міжнароднага праваслаўнага лагера з самых экзатычных краін свету.

Мерапрыемства вялі Валянціна Ласкевіч і Мікалай Бушко. Агулам выступіла 22 калектывы (хоры, ансамблі, танцавальныя калектывы, эстрадныя групы). Як першыя на сцэну — чыгуначны перон — выйшаў Гарадоцкі хор. Пачалося з традыцыйнай „Купалінкі". Песні плылі і плылі. Варта адзначыць багацце рэпертуару і высокі мастацкі ўзровень.

— Шкада, што можна заспяваць толькі дзве песні. Людзі прыехалі паказацца, — кажа вядомы беластоцкі спявак Юрка Налівайка.

— Нас мала „ўключылі", затое будзем піць, гуляць і дзевак любіць, — запэўнілі мяне хлопцы з Пружанскага хору.

Таксама ўсхваляваліся чаканнем жанчыны з пружанскай групы: Каця Нікіцюк, Вольга Ліцьвінчук і Таня Раўнікова. Жанчыны выступалі ў Белавежы ўжо тры гады таму.

— Для мяне гэта вялікае свята, бо сваякі прыехалі з Пружан, — кажа пенсіянер-белавежац, Мікола Шпаковіч.

Не горш святкавалася навакольным жыхарам.

— Якія ў вас уражанні? — пытаюся хлопца з Падрэчанаў.

— Будуць яшчэ лепшыя, калі застанешся са мной, — пачула я ў адказ.

Навокал эстрады шматлюдны натоўп. Некаторыя меркавалі, што сабралася тут 10 тысяч удзельнікаў. Але папраўдзе было іх напалову менш.

— Ці можа быць Купалле без гарэлкі? — папытаўся мой сябра-журналіст у старэйшых дзядзькоў, ужо някепска падпітых.



*Старшыня БДА Пятро Крук (злева) падчас купальскіх гульняў.*

— С..., — пачулася, што можна падразумеваць як не, не можна.

Прыемна было сустрэць жыхароў Чыжоў, верных чытачоў „Нівы". Ніна, Валодзя і Мірак прыехалі з дзецьмі. Для іх гэта Валодзя выстойваў ў чарзе за шарыкамі па 40 тысяч злотых.

Варта адзначыць, што наехала шмат моладзі. Славік Сеяковіч, Томак Кічкайла, Павал Матэйчук і Юрка Грэчан — хлопцы з Гайнаўкі. На Купалле яны прыехалі ўпершыню. Разглядаліся яны за дзяўчатамі, каб пайсці шукаць з імі папараць-кветку.

— Але мы не ведаем абрадаў гэтай ночы, — гаварылі яны на беларускай мове з польскім акцэнтам.

— Тады зважайце. Бо каханне ў ноч Купалы бязгрэшнае, а сёння — 10 ліпеня, і могуць быць праблемы, — паясняе мой сябар малодшым калегам (у Купальскую ноч дзяўчаты ніколі не маглі зацяжарыць).

А на эстрадзе танцы, спевы і гульні.

— Найгорш то дачакаць канца. А мы ж, гаспадары, дык мусім закончыць афіцыйную частку, — кажуць мужчыны з Гайнанскага хору.

Сваю прысутнасць адзначылі таксама ўдзельнікі рэйду „Бацькаўшчына". З беларускім сцягам і патрыятычнымі песнямі вылучаліся яны асабліва. Іх прысутнасцю быў заварожаны ганаровы госць Купалля міністр Пётр Краўчанка.

— Прыемна мне тут быць сярод сваіх гасцінных суродзічаў. У сувязі з тым, што мерапрыемства праводзіцца ў Белавежскай пушчы, у мяне ўзнікаюць такія вось асацыяцыі: мы, беларусы, дзеці прыроды; нашыя продкі так сама, як мы сёння, тут у пушчы ў часы Вітаўта гасцявалі перад Грунвальдскай бітвай. Такое мерапрыемства для нас усіх — вялікая маральная падтрымка. Хацелася б, каб беларусы тут ніколі не загінулі, — сказаў міністр Краўчанка.

Надзвычайны і паўнамоцны пасол РБ у Польшчы Георгій Таразевіч сказаў:

— Сёняшнія святкаванні навеялі на мяне ўспаміны з дзяцінства. Памятаю, як у мінулым мы арганізавалі такія ж купальскія вогнішчы. Толькі ў нас не было рэчак, толькі возеры, бо я родам з Віленшчыны. А тут уразіла мяне вялізная колькасць удзельнікаў свята і гасціннасць гаспадароў.

Праўда, усе знайшлі месца за гасцінным беларускім сталом. Забава працягвалася да рання.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**
**Фота Сяргея Грынявіцкага**



*Было чым падмацаваць стомленае цела.*

*МІХАСЬ АНДРАСЮК*

## ЭЦЮДЫ

1.

не пасылай мне
сноў абы-якіх
ў якіх абы-хто
валодае світаннем
упэўненасць упіраючы
сілком туды
дзе я прывык хавацца
з прадчуваннем

2.

неба о чыстае неба
колькі нам трэба расчыніць фіранак
каб дакрануцца да жывых блакітаў
воблакаў колькі прыадкрыць словамі
і не заблытацца ў штодзённых малітвах
неба о чыстае неба
як рукой падаць стаіш над галовамі
чуеш нас і бачыш
ды паняць не можаш
чаму ідзем у вечнасць
дагары нагамі

3.

сніўся ты шарлатанам
тыранам
мучанікам
містыкам
алхімікам і цынікам
яны цябе ўсё фальшавалі
і рыфмавалі чорнай лініяй
а белым вершам ты прабег
і следу не пакінуў
дзе жаль
дзе жарт
дзе боль і смех
хацеў я паўстрымаць іх
не паўстрымаў

4.

у кожнага ёсць свой Хрыстос
свой боль свой час
гармонія
свой колас сонца кожны сам
раздушвае ў далонях
о свет ілюзія сляпым
штодзень сябе ствараеш
на позірк мой і успамін
чаму ж зноў непрысутны шчыт
ты паказаў мне над далінай
дрэва спакусы і пазнання
тых што не бачылі гары
кліч альпінізму не спужае
і не разбудзіць воўчы крык
аж ноч прасніцца да світання
у кожнага ёсць свой Хрыстос
свой боль свой час
і мера

5.

боль пакаяння ў цішыні
звініць мацней мацней мацней
і ломіць крылы вечных крыўд
ты што спынюўся у дарозе
бяроз цудоўных косы гладзіш
глядзі як лопае нарыў
і яблыкам спадае ў садзе

хто йшоў прабачыць боль дарог
змерыў нагой цаля за цаляй
няма такой ракі у свеце
што з яго ног абмыла кроў
і пакацілася крыніцай
няма такой далоні каб
змалола церні ў бохны слоў

боль пакаяння ў цішыні
сусвет сплятае у адзінства
і ўсе закляцці варажэяў
спаўняюцца бязгрэшным целам
матчынай хустачкай з дзяцінства
малочны шлях зноў калясіць
і ноч з прасоння ўстае птушкай
што летась ў вырай адляцела

6.

лірнік надзеі бачыш свет
струной распяты у нябыце
зайграй няхай ўзляцяць сумленнем
эцюды і сімфоніі
хай нестварымае стварыцца
з нашых бязмежных сумняванняў
і зачаруе клавіятуры
спакой з адвечнай дысгармоніі
лірнік надзеі дай душу
тым што яе неасцярожна
змянялі на юнацкі бунт
і непакорнае пазнанне
кінь слова хай бяжыць вадой
і напаўняе нас прыгожа
прастудняй беленькіх крыніц
што б'юцца ў грудзі пакаяннем

7.

каму назначана прайсці
апоўдні над вялікай граняй
калі вясна красуе ў полі
і фарбы дзеліць шчодра
прабачце вы яму
што ў чарку развітання
замест чырвонага віна
ўлівае непакорнасць
містыфікацыяй і маскай
бароніцца ад свету мім
а навакол стралой сякуць
рэфлектары арэну
пасля спектакля ў цішыні
калі абмые з твару грым
толькі люстэрка мёртвым вокам
заўважыць перамену

8.

у кожнай жмені ёсць зярня
цяжарнага сусвету
што расцвіце крылківай птушкай
і пабяжыць святлом юрлівым
наперамену будзе сніць
і сны стварацьз балючай пусткі
складаючы хаос адвечны
ў радкі слухмяных трыялетаў
спыніся ты што ўжо стаіш
з бліскучай брытвай у далоні
каб сэрца выкінуць на снег
нічога што яно
не мае формы ідэальнай
шарападобных небасхілаў
ёсць у брыдоце гэтай крылы
якіх не мае мёртвы атам
хаця і свет ён цэлы злётаў
у кожнай жмені ёсць зярня
цяжарнага сусвету

*ВІКТАР ШВЕД*

## СВЯТЫ ІЛЬЯ

Ілья Святы і Цудатворац
Апекуном людзей у Моры.
І на Ілью ў сваю капліцу
Яны ўваходзяць памаліцца.
І я збіраюся ў дарогу
Заўсёды на Ілью Святога.
Вядзе мяне Ілья Святы
У дом бацькоўскі ўжо пусты.
Бацькоў сваіх цяпер знаходжу
Я за магільнай агароджай.
Пасля турбот спакойна спіцца
Ім за цвінтарнаю капліцай.
Я над магіламі малюся
Сваіх татулькі і мамусі.
Прашу мне гэтае прабачыць,
Што іх наведваў рэдка ў хаце,
Што быў я целам заўжды ў далі,
Яны ж чакалі ўсё, чакалі...
Прабач і Ты, Святы Ілья,
Спачыну ж тут таксама я.

## Музыка ў іншым свеце

Віктар Швед у сваім цікавым вершы „На той свет вазьму гармонік" („Ніва" н-р 27 ад 3 ліпеня) ярка і вобразна паказаў гісторыю Колі — сляпога чалавека. Ён у дзяцінстве страціў зрок з-за ўласцівай дзецям цікаўнасці: разбіраў снарад, той разарваўся і дзяцюк стаў калекай на цэлае жыццё. Невідушчы чалавек нешчаслівы, бо слепата — гэта трагедыя. Але ён не страціў надзеі, імкнуўся жыць як здаровыя людзі, абзавёўся сям'ёю. Бог даў яму талент прыгожа іграць на гармоніку (як і большасці невідушчым) і гэта яго зямная радасць. Ён хоча узяць з сабою гармонік у Неба і там іграць на славу Бога. Туды, у Неба, нічога не возьмем, бо там будзе іншае жыццё і іншыя музыка. Коля часта моліцца Богу, каб прыняў яго ў Сваё Царства, дзе атрымае іншы зрок — духоўны, бо цялесны зрок пагасне тут, на Зямлі, у кожнага з нас.

Кожная вайна пакідае свае „падаркі". У нас, каля Дубіч, таксама, пераважна ва ўрочышчы „Зады" непадалёк Карыціскаў, савецкія часці пакінулі многа боеприпасаў, а нават танкі. Дзеці гулялі імі і ў кожнай вёсцы ёсць ахвяры: хто астаўся без рук, хто без ног, а хто і зусім перабраўся на той свет. Цікавасць дзяцей да зброі пакінула страшэнныя раны.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

<u>Вяртанне нацыянальных каштоўнасцяў</u>

## ЦАРКОЎНАЕ МАСТАЦТВА

### Частка I

Амаль у кожным музеі ёсць аддзел рэлігійнага мастацтва. Наведвальнікі любуюцца старажытнымі іконамі, харугвамі, рызамі, багата інкруставанымі чашамі. Усе гэтыя прадметы створаны былі найчасцей па заказу і дзеля царкоўнага ўжытку. У музеі яны трапілі пераважна шляхам канфіскацыі, бо Царква лічыць аганьбаваннем святасці перадачу прадметаў рэлігійнага культу для свецкага ўжытку. Паколькі, у адрозненне ад шэрагу гістарычна-культурных каштоўнасцяў, помнікаў архітэктуры і мастацтва, законных спадкаемцаў, якіх неаднойчы цяжка акрэсліць, Царква з'яўляецца неаспрэчным пераймальнікам і прадаўжальнікам матэрыяльнай і духовай культуры створанай вернікамі ў мінулыя часы.

Вядома, што з вяртаннем фабрык былым фабрыкантам можа быць тугавата. Клопат можа быць з зямлёю, але ці не нележала б вярнуць Царкве, што законна належыць ёй і што нікому не прынесла б крыўды? Ці, напрыклад, іконы з апустошаных у выніку злачыннай акцыі „Вісла" лэмкаўскіх цэркваў або манастарскія будынкі ў Супраслі і шэраг падобных аб'ектаў і прадметаў не павінны ў нашай „дэмакратычнай" дзяржаве, без лішніх дыскусій і кансультацый з цяперашняй „вядучай сілай народа" проста быць аддадзены назад законнаму ўласніку? Вядома, што за „кіруючую сілу" і найвышэйшы „маральны аўтарытэт" не хвалююся. Наш фундаменталісцкі каталіцызм дастаткова спрактыкаваны ў „рэвіндыкацыі" праваслаўных храмаў так, што тым болей цяпер вырве сваё і не сваё нават вытурыўшы на брук інвалідаў або дзяцей. Перш за ўсё хвалююся за сваю Царкву, для якой „раўнапраўе" нейк гістарычна ў „найяснейшай" загарантавана толькі на паперы.

Справядлівасць не павінна быць выбіральнай, але што гэта „справядлівасць або праўда". Гэта ідэал або заданне, з недасягнення якога не трэба здаваць справаздачы. На карціне Мікалая Ге румяны, самазадаволены Пілат іранічна пытае акрываўленага, скатаванага Хрыста: „А што такое „праўда"? Праўда — гэта ён, а за ім стаіць магутная дзяржава. Існіна пераважна на баку мацнейшага. Гэта сумна і прыкра, але гэта праўда. Хто ў Польшчы ў мностве істотных спраў мае вырашальны голас — ведае кожнае дзіця. Для Праваслаўя ў Польшчы мала калі дзьме спадарожны вецер і зараз тым болей дарэмна чакаць цуду. У гэтым і асноўная прычына таго, што вяртанне Царкве ейнай маёмасці, напрыклад, Супрасльскага манастыра, не тэтульки юрыдычна заблытанае, але ўскладняецца з прычыны невылечнай алергіі каталіцкага духавенства на Праваслаўе і ўсякую іншасць. Гэта яно рукамі сваіх стаўленнікаў і тых, хто не ў стане супрацівіцца іранізацыі краіны, праводзіць сваю работу. Прапанова арцыбіскупа Шымэцкага, які ў небывалым прыліве любові да бліжніх умудрыўся перадаць будынкі спрэчнага манастыра „бяздомным і бедным", паказвае вяршыню езуіцкай яхіднасці. Нехта правільна падказаў: хай аддадуць, напрыклад, былы праваслаўны манастыр у Ружаным Стоку або іншы. Бедныя, паевангельску заўсёды былі і будуць і Курыя даўно магла пацікавіцца іхным лёсам, а не толькі цяпер, калі праваслаўныя адваявалі частку Супрасльскага манастыра. Шчодрым лёгка быць, калі ідзе пра чужое. Пра такое ў нас на вёсцы гаварылі: „Сам не гам, але і другому не дам".

Калі чагосьці немагчыма змяніць, трэба да яго прыстасавацца. Гэта значыць, што без дарэмных ілюзій, у абставінах якія ёсць, усё ж такі трэба навучыцца карпатліва і цярпліва адстойваць сваё, свайго дабівацца насуперак усім нячыстым сілам.

*(працяг будзе)*

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

## У СОНЕЧНЫ ЛЕТНІ ДЗЕНЬ

7 ліпеня стаяла прыгожае сонечнае надвор'е і я выбраўся на матарынцы з Відава ў Пасынкі ў Бельскай гміне, дзе быў царкоўны фэст — дзень Іаана Хрысціцеля. Уся дарога асфальтаваная. Затрымаўся я на мосце на рэчцы Арлянка паміж Катламі і Пасынкамі, гляджу ў рэчку. Якая чыстая вада! На дне гравій, водная трава, плавае многа рыбак, а нават рак каля каменя паўзе. Прыемна паглядзець, бо рэчак з так чыстай вадою амаль ужо няма. У Пасынках — як у горадзе: многа народу і самаходаў, прадаўцы з усялякім таварам, дзеці з цацкамі або цукеркамі ў руках, прыгожыя, загарэлыя на сонцы, дзяўчаты. Людзі цешацца з сустрэчы са сваімі знаёмымі. Зайшоў я на пошту, дзе начальнікам з'яўляецца мой добры сябра Сцёпа Кучынскі. Даведаўся як справа з падпіскай „Нівы". Аказваецца, што тут усяго чатырох падпісчыкаў: Вакулеўская ў Катлах, Якімюк у Зубаве, Мар'я Ясвіловіч у Пасынках і нехта ў Кожыне. З'явіўся на пошту і солтыс, Алёша Паляхоўскі, які расказаў, як тыдзень раней гасілі царкву. Агонь на даху царквы першай убачыла Зінаіда Крукоўская і падняла крык, што царква гарыць. Людзі пазванілі па пажарнікаў. Хутка з'явіліся 15 пажарных каманд з Беластока, Бельска, Гайнаўкі, Сямяціч і навакольных вёсак. Гасілі праз вокны; дзвярэй не адкрывалі — інакш, так як у Чыжах ці Кленіках, усё дашчэнту згарэла б. Дзверы адчынілі тады, калі патушылі агонь, каб вынесці іконы. Быў гэта найгоршы момант: пажарнікі млелі ад дыму. Царкву ўдалося ўратаваць: абгарэлі толькі купал і прытвор.

Падчас святочнага набажэнства свяшчэннікі і вернікі шчыра маліліся і дзякавалі Богу за захаванне каштоўнай царквы.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# НАШЫ КАРАНІ

## LXVIII. ІНСПІРАТАР І МЕЦЭНАТ

Праваслаўная Царква заўсёды натхняла творцаў да выяўлення свайго таленту. Незлічоныя прыклады таго і ў грацыёзных сілуэтах праваслаўных храмаў і ва ўсім, што іх здобіць знешне і напаўняе ўнутры. Для цэркваў у папярэдніх часы, але асабліва ў XVI стагоддзі, ствараліся высокамастацкія рэчы, перш за ўсё чашы, дзіскасы, звяздзіцы, лжыцы, коп'і, дарахавальніцы, дараносіцы, шлюбныя вянцы, кандэлябры, кадзільніцы, лампады, харугвы, ліхтары і іншыя рытуальныя прадметы. Яны з асаблівай старанлівасцю адліваліся і выкоўваліся пераважна з каштоўных металаў або пакрываліся срэбрам ці нават золатам, здобіліся дарагім каменнем, эмалямі, чарненнем, зярненнем. Часта гэта былі выдатныя творы мастацтва. На жаль, амаль усе яны, за рэдкімі выключэннямі, загінулі або ў полымі войнаў і пажараў, або былі зрабаваны ці знішчаны іншаверцамі. Нярэдка ведаем пра іх толькі з выпадковых запісаў ці малюнкаў. Гэтак з перапісу маёмасці з XVI стагоддзя даведваемся, што ў Свята-Благавешчанскай царкве Супрасльскага манастыра знаходзілася дарахавальніца ў выглядзе супрасльскай царквы, пацір (інакш: чаша) срэбная, пазалочаная з гербам Хадкевіча як дар славутага, вядомага ўжо нам з папярэдніх артыкулаў, заснавальніка Супрасльскага манастыра, Аляксандра Хадкевіча. Вылучалася таксама прыгажосцю і майстэрскім выкарыстаннем розных спосабаў абробкі металаў чаша, зробленая па заказу слуцкага князя Алелька ў 1580 г. Падобная да яе ёсць чаша са Свята-Барысаглебскага сабора ў Наваградку, яна таксама сведчыць, як адзначаюць даследчыкі, пра „добры густ і майстэрства" яе выканаўцы. На жаль, імёны і паходжанне творцаў гэтых шэдэўраў засталіся невядомымі.



*Пацір з Наваградка (XVI ст.).*

Вялікай працавітасцю і майстэрствам адзначаліся стваральнікі абкладаў іконаў і кніг. Гэта ў асноўным была чеканка, пераважна ў срэбры, часта з пазалотаю і дарагім каменнем. Такія іконы і свяшчэнныя кнігі знаходзіліся ў многіх храмах, асабліва дзе былі замажнейшыя прыходы, а таксама ў багатых прыватных асобаў. Як даведваемся з запісу ў „Реистрику" з 1557 г. архімандрыта Сергія Кімбара, у супрасльскай Свята-Благавешчанскай царкве знаходзілася „Евангелие перкгаментное старое, нонокованное сребром с позолотою со всех сторон" і „Евангелие напрестольное у великой церкви новое с оковы серебряными с позолотою", а многія іконы ў супрасльскіх храмах былі аздоблены срэбнымі і залачонымі абкладамі-рызамі.

На Беларусі ў той час славіліся сваімі працамі ліцейшчыкі званоў. З іхніх умелых рук выходзілі мілагучныя званы, кожны адметны сваім тонам. Шэраг іх здобілі ўзоры і выгравіраваныя надпісы на старабеларускай мове, як, напрыклад, звон з 1583 г. з царквы ў вёсцы Моладава на Берасцейшчыне, які з'яўляецца не толькі помнікам мастацтва званаліцейства, але і беларускага пісьменства. А трэба ж памятаць, што ў тую эпоху на Беларусі дзейнічалі тысячы цэркваў і амаль у кожнай набажэнствам спадарожнічаў спеў званоў.

Не меней выняходлівымі і мастацкімі былі кавальскія вырабы з жалеза. Нярэдка яны прадстаўлялі сабою настолькі дасканалыя творы, што не ўступалі працам ювеліраў. Прыкладам таму маглі быць галоўныя дзверы тае ж Свята-Благавешчанскае царквы ў Супраслі, „дэкор якіх нагадвае арнаментаваныя басменныя (інакш: залатарскія — М. Г.) абклады, — піша беларускі мастацтвазнавец А. Сямёнаў. — Усё поле дзвярэй падзелена стужкамі металу на квадраты, у цэнтры якіх знаходзяцца чатырохканцовыя разеткі з невялікай чатырохпялёсткавай кветкай пасярэдзіне. Такія ж кветкі праз аднолькавы прамежак размешчаны і на палосах металу". Супрасльскія дзверы — гэта ўсяго адзін з тысяч разнастайных кавальскіх вырабаў, якія здобілі праваслаўныя храмы на беларускіх землях у XV—XVI стагоддзях.

Заканчваючы разважанні пра варункі дзейнасці і грамадскае становішча праваслаўнай Царквы ў XVI стагоддзі ў гэтак званыя „Зыгмунтавы часы", неабходна сцвердзіць, што падобна як у папярэднюю эпоху і асабліва ў наступных стагоддзях была яна нястомным інспіратарам і мецэнатам беларускага мастацтва ў яго ўласнабеларускай нацыянальнай форме. Праваслаўныя храмы былі і ў многім застаюцца да сённяшняга дня самымі дбайнымі захавальніцамі мастацкіх твораў, іх сапраўднымі скарбніцамі.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

## З ТРЫМА КАРТАМІ НА ПУШЧАНСКІЯ ШЛЯХІ

Яшчэ ніколі ў цэлай гісторыі Белавежскай пушчы гэтак не здарылася, каб наведваючы нашу жамчужыну турыст мог купіць адначасна аж тры яе турысцкія карты. У мінулым бывала наадварот — што некалькі гадоў не хапала ў продажы ніводнага выдання! Тыраж папярэдняй карты скончыўся, а наступнай толькі што падрыхтоўваўся да друку.

Сёлета ў продажы знаходзяцца: карта выдадзеная Паўночнападляшскім таварыствам аховы птушак і два выданні (другое і трэцяе) карты, апрацаванай Агнешкай Вэндрыхоўскай і Веславам Астроўскім, а выпушчаныя Польскім прадпрыемствам картаграфічных выданняў імя Э. Ромера. Першая карта падрыхтавана з думкай аб турыстах — аматарах птушак. На ёй абазначаны месцы, дзе можна назіраць цікавейшыя віды крылатай фауны, а ў апісальнай частцы гэтым відам даецца кароткая характарыстыка. Дзве апошнія карты адрасаваны турысту, які пакрысе цікавіцца ўсім.

Чым адрозніваюцца два чарговыя выданні? Хіба не схлушу, калі скажу, што апрача розных вокладак, амаль нічым! У графічнай частцы — на вадасховішчы Семяноўка дамалявана толькі крыху „траўкі” пры берагах. Усё апошняе такое самае. Нават той жа няшчасны „Gródek” ля Белавежы астаецца надалей Грудкам, хаця добрых пару гадоў назад пасёлку афіцыйна вернута старая назва Грудкі. Гэтак пішацца і на дарожных паказальніках.

Амаль некранутай астаецца апісальная частка карты, у якой шмат што трэба актуалізаваць. Найбольш б'юць у вочы ўстарэлыя лічбы пра паверхню цэлай пушчы. Зараз падаецца, што пушча ахоплівае 150 тысяч га (а не 125 тысяч га), з чаго на польскую частку выпадае 62,5 тысяч га (а не 58 тысяч га), а на беларускую 87,5 тысяч га (а не 67 тысяч га). Іншую паверхню мае таксама Белавежскі нацыянальны парк (зараз 5 348 га).

Шмат устарэлых інфармацый і пры апісанні флоры і фауны пушчы. Быццам у апошніх гадах белавежскія вучоныя нічога новага не ўстанавілі. Сапраўды, рассмяшыць толькі можа, напрыклад, пададзены лік 1 000 відаў грыбоў, калі здаўна ўжо вядома, што ў пушчы ёсць іх звыш 2 000.

На карце віднее і планік Белавежы. На ім таксама нічога не актуалізавана, а ёсць што папраўляць.

Мой знаёмы гэтую сітуацыю ахарактарызаваў, вось, так: „Наклапалі гэтых картаў, а карысці з іх нямнога”. І хіба ён мае крыху рацыі. Дрэнна, калі вялікаму ліку не спадарожнічае высокая якасць. Але, усё ж, для турыста лепш, калі можа купіць нават недапрацаваную карту, чым хадзіць па пушчы без аніякіх дапаможнікаў.

**ПЁТР БАЙКО**

## УЛАДЗІМІР КЛІШЭВІЧ — ПАЭТ РЭФЛЕКСІЎНЫ

### Частка XVII

Незадаволенасць Клішэвіча амерыканскім жыццём не вынікала з матэрыяльнай неўладкаванасці і клопатаў. Наадварот, гэты бок жыцця поўнасцю задавальняў паэта. Аднак, згодна з біблейскім афарызмам, не толькі хлебам чалавек жыве. Адарваны ад роднай зямлі пісьменнік не знаходзіў на эміграцыі таго аспекту духоўнасці, які можа даць толькі родная зямля. Цяга да роднага і адвечнага была ў Уладзіміра Клішэвіча мацнейшай, чым у іншых эміграцыйных пісьменнікаў. Таму праявы духоўнага крызісу ў яго намнога часцейшыя і глыбейшыя, чым у творчасці іншых літаратараў. Уладзімір Клішэвіч усведамляў гэты факт і таму, сумуючы за родным краем і супраціўляючыся яму нявыгады выгнанніцкага побыту, звяртаючыся ў адным з твораў да паэта, меў, мабыць, на думцы не толькі сябе, але і іншых беларускіх эміграцыйных творцаў:

*Кідай, паэт, — а то душа астыне —*
*Ты край чужы!*
*Пра горкі лёс далёка на чужыне*
*Ты раскажы.*
*Я сам свае наб галавою песні*
*Пераламлю.*
*Ты апусціся цвёрда на калені,*
*Цалуй зямлю.*
*Калі цябе хто-небудзь запытае,*
*Скажы яму:*
*— Радзіма-маці кветка дарагая —*
*Мяжа ўсяму.*

Радзіма як мерка і крытэрый поўнага чалавечага шчасця выступае не толькі ў працытаваным вершы. Матыў гэты праяўляецца ў многіх іншых творах пісьменніка, якому было выразна цесна ў амерыканскім дабрабыце. Найбольш парадаксальным было тое, што паэта выразна душыла амерыканская свабода. Тое, да чаго ад вякоў імкнуліся творцы: асабістая, поўная незалежнасць і матэрыяльная забяспечанасць, у выпадку Уладзіміра Клішэвіча станавілася прычынай незадаволенасці і згрызот. У істоце яго ўцёкі ад Амерыкі і імкненне ў Беларусь былі формай адыходу з лепшага ў горшае. Аднак кожны чалавек, як правіла, каваль свайго лёсу і мае ён права на свабодны выбар. Калі б мы сёння пачалі катэгарычна асуджаць Уладзіміра Клішэвіча за яго пасіаву, за яго трактоўку Захаду і за яго імкненні, у істоце пераняалі б метадалогію савецкіх крытыкаў, якія заўсёды лепш, чым сам творца, ведалі, як павінен ён думаць, як пісаць, як жыць і да чаго імкнуцца. Адступаючы ад такой метадалогіі дазволім паэту захаваць поўную суверэннасць думак, поглядаў, творчасці.

Паэт прайшоў, несумненна, пакутніцкі шлях і дайшоў да такіх ці іншых высноваў. Высновы гэтыя акрэсліў у паэтычных выказах. І наш абавязак у тым, каб яго волю поўнасцю шанаваць. У адным кароткім вершы Уладзімір Клішэвіч быццам бы сфармуляваў сваю жыццёвую і мастацкую біяграфію. Вось яна:

*Віхры смерці ляцелі ў абдымкі,*
*Сам не ведаю нават адкуль.*
*У душы адпраўляў я памінкі*
*Па сабе з пацалункамі куль.*

*Шмат чаго паспытаць давялося*
*На сваім невясёлым вяку.*
*Нават пушчы ад болю галосяць,*
*Калі іх пад карэнне сякуць.*

*Скалясіў я і сушу, і воды,*
*Адпакутаваў шчырай душой.*
*Не да густу мне Захаду подых,*
*Я тут шчасця нідзе не знайшоў.*

У заканчэнні верша па сутнасці сказана ўсё аб знаходжанні паэта на чужыне і мы не маем права што-колечы да гэтага дадаваць.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

## Багатая анталогія ці багаты даведнік?

Хачу дакінуць пару слоў да рэфлексіі Уладзіміра Гніламёдава пра творчасць „белавежцаў” (гл. „Ніва”, н-р 28, 1994 г.), — каб стала яснай думка выказаная ім адносна т. зв. *багатай* анталогіі „беларускай” літаратуры.

На літаратурным семінары „Белавежы” ў Цеханоўцы, на які быў запрошаны Уладзімір Гніламёдаў, наш госць з Менска ад сябе выказаў думку і неблагую, што прыйшоў час выдаць у Менску анталогію і нашай творчасці. Вунь Барыс Сачанка апублікаваў вельмі добрую анталогію беларускіх эміграцыйных паэтаў. Чаму б Менску не бачыць у такім плане літаратараў Беласточчыны? Усе прысутныя на семінары, вядома, прыляснулі ў далоні. Аднак, калі ініцыятар выдання анталогіі, той жа праф. Ул. Гніламёдаў пачаў прадстаўляць нам канцэпцыю кнігі, то не мне аднаму вочы на лоб палезлі.

У „ніўскім” інтэрв'ю, бачу, прафесар гародзіць тое самае, супраць чаго „белавежцы” выказаліся адкрытым тэкстам. Праф. Ул. Гніламёдаву, відаць, недастаткова паінфармаванаму пра нашае тут агульнае жыццё-быццё-ныццё ды канкрэтныя літаратурныя спружыны і матрацы, марыцца, як ён сцвярджае, *выданне больш шырокае (...) пра Беластоцкі Край*, штосьці накшталт этнаграфічна-геаграфічнага даведніка, са здымкамі скрыжаванняў галоўных нашых дарог. У выданне тое, на ягоную, прафесарскую думку, *трэба будзе ўключыць (...) творы таксама непрафесіяналаў.*

Непрафесіяналаў — гэта значыць разам з прызнанымі крытыкай мастацкімі творамі „белавежцаў” друкаваць матэрыялы штатных журналістаў „Нівы” і яе няштатных карэспандэнтаў?! Ці хто калі-небудзь бачыў такую „арыгінальную” анталогію? І ці шаноўны прафесар хацеў бы свае гістарычна-літаратурныя доследы публікаваць у адным томе, у адным часопісе, пад адной вокладкай, разам, скажам, з вучнёўскімі сачыненнямі або пагудкамі вяскоўцаў?

„Белавежцы” не для таго неспакойна ды доўга вылузваліся з аматаршчыны, каб цяпер зноў быць „пушчанскаю кветкай”, каб іх творы накрыла неўтаймаваная хвала „імшарнага рамантызму” графаманаў і непрафесіяналаў.

Члены „Белавежы” заслугоўваюць самай паважнай увагі гісторыкаў літаратуры, крытыкаў і выдаўцоў. Размываць іх творчасць ды літаратурную арганізацыю ўключэннем у яе шэрагі журналістаў і карэспандэнтаў — ідэя, можа, добрая для некага ў сталічным горадзе Менску. Для нас яна непрымальная! Дзякуем ветліва, пачакаем!

**ГЛЕБ ШТОДЗЁННЫ**

## Што скора робіцца, сляпое родзіцца

Лячэнне зубоў — справа непрыемная, аднак, вельмі важная. Без зубоў чалавек і брыдка выглядае, і хутка старэе. Нашыя людзі прывыклі лячыць свае зубы танным коштам, а магчымасць такую можна знайсці ў шматлікіх прыезджых „рускіх” зубных лекараў. Яны лечаць маланкава і трохі менш бяруць за лячэнне (за пратэз бяруць на нейкіх 300 тысяч злотых менш ад польскіх дантыстаў). Але не раю чытачам „Нівы” лячыць у іх свае зубы, бо яны пераважна ашуканцы і махляры, аб чым многія ўжо пераканаліся, у тым ліку і я. Лечаць яны на скорую руку і іхняе лячэнне такое, як гаворыцца ў народнай пагаворцы: „Што скора робіцца, сляпое родзіцца”. Трэба ведаць, што „рускі” пратэз намнога мягчэйшы ад польскага і праз некалькі гадоў (вядома, калі добра зроблены) ён па-простy з'ядаецца, а калі і пашкодзіцца, дык польскі дантыст не будзе рамантаваць яго. І таму лепш заплаціць нашаму зубному ўрачу, чым „рускаму” за яго неахайную работу. Калі наш зробіць пратэз, дае на яе гарантыю; у „рускіх” гэтага няма. Да таго ж многа было выпадкаў, калі яны наперад бралі грошы ад сваіх кліентаў абяцаючы, што за месяц ізноў прыедуць лячыць зубы. Але былі гэта толькі абяцанкі, бо больш гэтых ашуканцаў ніхто не бачыў ні ў сваёй, ні ў суседніх вёсках. Яны, „рускія” ўрачы, вельмі ветлівыя і гладка ў іх язык ходзіць.

Цяжка пералічыць, колькі ўжо яны людзей так абдурылі. Напэўна ёсць сярод іх і добрасумленныя лекары, але і яны лечаць на скорую руку, бо інакш не можа быць. А каб добра лячыць зубы, патрэбны і час, і цярплівасць так з боку лекара, як і з боку хворага. І таму не спяшайцеся да „рускіх цудатворцаў”, бо многія ўжо на іх апякліся.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

## ФЭСТЫН НА СПОРТПЛЯЦОЎЦЫ

У нядзелю, 17 ліпеня бягучага года адбыўся беларускі фэстын на вясковай спортпляцоўцы ў Старым Беразове (Гайнаўская гміна). У гэтай мясцовасці арганізавалі яго ўпершыню і трапна — людзей сабралася многа, з усіх навакольных вёсак. Паабапал вясковай асфальтаванай вуліцы стаялі доўгія шарэнгі прыватных аўтамашын. Была гэта — неяк пры нагодзе — дэманстрацыя, паказ аўтамабільнай тэхнікі. Легкавікі былі самых розных марак!

Гледачы захапіліся, аднак, не маркамі аўтамашын, але мастацкімі выступленнямі „Арэшкаў” з вёскі Арэшкава, „Родныя” з Дубяжына, „Рэаля” — гурта, які стварылі браты Кавальскія з Крыўца, мяшанага хору БГКТ з Беластока ды заможнага ансамбля народнай музыкі і танца „Музыкі” з Гродна. Пры большай колькасці ахвотных выступаць на сцэне (у тым выпадку на свежым паветры і ў цені маладых бярозак), арганізатары выбралі толькі самыя лепшыя песні ды найлепшых выканаўцаў. І так канцэрт атрымаўся амаль трохгадзінны.

Арганізацыя мерапрыемства была добрая і адпавядала моладзі і старэйшым жыхарам беларускіх вёсак на Гайнаўшчыне. Стаяў спякотны ліпеньскі дзень. Але піва ды ўсялякіх напіткаў, а таксама марожанага хапіла ўсім. Цікавым выканаўцам, сказаць бы лепш — майстэрскім, усе гурты прыкоўвалі ўвагу прысутных. „Рэаль” — узыходзячая эстрадная зорка — заваёўвае сабе папулярнасць не толькі сярод вясковай публікі, але і ўсё шырэй сярод гараджан. Выступаючы пасля гэтага слаўнага гурту хор БГКТ з Беластока паказаў яркую сваю адметнасць і накаванае гадамі майстэрства. А ўжо замежныя „Музыкі” гэта сама па сабе арыгінальная адметнасць. На маю думку, ансамбль павінен выконваць творы ў сваім стылі, бо робіць гэта дасканала і не сыходзіць, так бы мовіць, з п'едэстала. „Музыкі” пад канец свайго мініканцэрта паддабрыліся агулу слухачоў, спадабаліся ўдзельнікам мерапрыемства. А ўвечары, падчас народнага гуляння, у танцавальнай зале прасторнай новай мясцовай святліцы, „шумна” названай домам культуры, „Музыкі” гралі да танцаў.

Падчас фэстыну „белавежцы” — Васіль Петручук і Янка Целушэцкі падпісвалі свае кніжкі, прадавалі выданні БГКТ. Не хапіла для ўсіх касет з запісамі песень калектыву „Рэаль” ды з Фестывалю беларускай песні-94 у Беластоку. Купілі 50 касет. Аказваецца, на Купаллі ў Белавежы прадалі іх 75. Ёсць на іх попыт. Музыку сваю, родную ў нас любяць слухаць.

Неўзабаве чарговыя беларускія фэстыны: 31 ліпеня — у Дашах і Сямяцічах, а 7 жніўня — у Гайнаўцы. Да сустрэчы!

**ЯСЕНЬ**

 

# З КУФЭРКА БАБУЛІ НАДЗЕІ

*(працяг; пачатак у 21 н-ры)*

**(2)**

Надзея Руско з Белавежы найбольш любіць вясельныя песні. Вось дзве, якія яна пачула і запамятала ў часах сваёй маладосці.

*

Ой, аддала мане маці
у валікую сям'ю.
А валікая сям'я
вачэраці села.
А мане маладую
тэй па воду паслала.
А я воду нісла,
шчэй прыслухалася.
Штось у сенях гаманіт,
маці з сынам гаварыт.
Чом ты сынку не п'еш,
сваю жонку не б'еш?
Ой, чы ж вам так надаело
гэтэ чужое дзіця?
Ой, як я іе браў,
як із розы цвіток.
А цяпэр вана стала,
як той беленькі платок.
Ой, як я іе браў,
як той мак расцвітаў.
А цяпэр вана стала,
шчо я сам не пазнаў.

*

Аддаў мане татко
за горы, за долы,
коб я не хадзіла
да браткі ніколі.
Коб я не хадзіла,
коб я не вчашчала,
у сваго браточка
вароцечкоў не адчыняла.
Не буду хадзіці,
не буду стрэчаці,
німа мае мамы,
німа з кім размаўляці.
Ано ест у мане свекруха ліхая.
Сама рано ўстане,
а мане не збудзіт,
пойдзе да саседоў
ішчэ мане пагудзіт.
Коб я тое знала,
то я б рано ўстала
і волікі пагнала б.

**Запісаў ПЁТР БАЙКО**



# ЧАРАЎНІКІ

**2**

У адной вёсцы жалі па-суседску дзве кумы. Аднае карова давала многа малака, другое — усё запускалася. Не раз кума скардзілася суседцы на сваю біду. А тая, якой „шыхавала", сказала ёй так:

— Вам то я скажу, чаму ў мяне так ёсць. Толькі зрабіце, кумо, сыр, і я зраблю. Вечарам панясем сыр над рэчку.

Неяк удалося беднай куме сабраць малако на сыр. Панеслі свае сыры да ракі, кінулі на ваду. Адзін сыр ляжаў на вадзе нерухома, а сыр багатай кумы імгненна разнеслі па кавалачках вужакі, жабы і іншыя вадзяныя стварэнні.

— Вось, бачыце, кумо, вы пасля смерці будзеце ляжаць спакойна, а мяне хутка так вось разнясуць. Лепш спакойна бярыце свой сыр ды нясіце яго дадому.

Не схацела баба забіраць свой сыр, і перастала часта заглядаць да кумы.

У вёсцы Ц. у двух жанчын прапала малако ў кароў. Даведаліся яны, што ў вёсцы М. жыве варажэй. Пайшлі да яго за парадай. Паслухаў ён гаспадынь і параіў, каб у шчыліны каля вокнаў і дзвярэй наўтыкалі костачак ды булавак. Так яны і зрабілі. Вечарам пайшлі даіць кароў, і не маглі надзівіцца — надаілі столькі малака, што раней і за два дні ім не ўдавалася. Пералякаліся. Зараз жа пабеглі адна да аднае, спаткаліся на паўдарозе. Пагаварылі, разышліся. Калі сцямнела, да абедзвюх штосьці застукала ў акно і сказала:

— Выйдзі да скрыжавання і распішыся крывёю. Задарма малака піць не будзеш!

Жанчыны спалохаліся, а іхнія мужыкі падумалі, што яны з некім дамовіліся на начную сустрэчу на ростанях, але нікога за акном не было.

Так было не адзін дзень. Урэшце жанчыны падаставалі са шчылін косткі і булаўкі і вынеслі іх на ростані. Малако ў кароў зноў прапала, але прынамсі ніхто жанчын не намаўляў падпісвацца ўласнаю крывёю.

Аднойчы адзін мужчык збіраў у лесе грыбы і ўбачыў старэчу, які нешта нёс у мяшку. Стары затрымаўся, выкапаў ямку, з мяшка высыпаў золата і сказаў:

— Не маю каму пры жыцці аддаць сваё багацце. Заклінаю яго. Няхай той возме пасля маёй смерці, хто на гэтае месца прынясе сто чалавечых галоваў!

— Вераб'іных! — крыкнуў грыбнік.

— Не, чалавечых!

— Вераб'іных!

Доўга так перамаўляліся, аж урэшце стары згадзіўся на птушыныя галовы.

Чалавек ведаў, дзе тое золата ляжыць, але ніколі не мог падысці да таго месца, пакуль не прынёс ста вераб'іных галовак. Усё находзілі яго нейкія страхі.

У вёсцы П. памерла жанчына. Быў у яе толькі адзін сын. Усе людзі казалі, што яго маці схавала недзе золата, але ніхто не ведаў, дзе. А сын з нявесткай не верылі ў гэта, жылі бедна.

Прайшлі два месяцы пасля пахавання. Уся сям'я паехала ў царкву, сын застаўся дома. Змовіў малітву, пасля лёг на палаці. Раптам рыпнулі дзверы. Мужчына падняўся і амаль не страціў прытомнасці — перад ім стаяла пакойная маці!

— Не лякайся, сынку, — сказала яна. — Я прыйшла даць табе золата, якое схавала, нікому не сказаўшы, пад прыпечкам. На нашым свеце мяне лаюць, што я табе яго не аддала. Сёння мяне выправілі, каб я разлічылася.

Пакойніца пачала грабціся пад прыпечкам і дастала адтуль невялікі мяшок з залатымі манетамі, завушніцамі і пярсцёнкамі.

— Бывай, сынку, здаровы, — сказала нябожчыца і выйшла.

Калі сям'я вярнулася, расказаў ім пра сустрэчу з маці. Свой ляк потым адхварэў. А калі падужэў, накупіў зямлі, збудаваў новы дом і паставіў гаспадарку на ногі.

Старэйшыя людзі памятаюць, як калісьці жалі сярпом. Часта сустракаліся ў збажыне закруты. Так здарылася і ў вёсцы Л. Да сужонства Сцяпана і Дамінікі прыехаў сваяк з Расеі. Дапамагаў ім пры жніваванні. Калі дажалі да закрута, сваяк крыкнуў: „Ого! Закрунула на смерць гаспадара, двух валоў і свінні! Бярыце палкі і кладземся на зямлю! А цяпер б'ем з усяе сілы па зямлі! Той, хто гэта зрабіў, хутка сюды прыбяжыць, бо яму так будзе біцца ў сэрдзіне".

Білі, білі, аж урэшце ўбачылі жанчыну з другое вёскі, якая бегла з запэцканымі хлебным цестам рукамі.

— Што ты, гадаўка, нарабіла?! — закрычаў расеец. — Смерці чужой табе захацелася? Адкручвай! — і пачаў дубасіць чараўніцу палкай.

Жанчына адкруціла закрут і ўцякла дадому. Пасля гэтага здарэння людзі казалі, што, пэўна, і гэты рускі чалавек з ліхам знаўся.

*(працяг у наступным нумары)*

**АЎРОРА**

# ГАРАСКОП ДРУІДАЎ

3

КІПАРЫС, *(25 студзеня — 3 лютага, 26 ліпеня — 4 жніўня)*. Амаль усе дрэвы жывуць даўжэй за чалавека. Сярод іх ёсць нават такія, што налічваюць 6000 гадавых кругоў. Дажывае да 3000 гадоў і трэці сярод даўгавечных — кіпарыс. Гэты „брат" нашага ядлоўца шмат у чым падобны на свайго паўночнага родзіча, але значна вышэй яго — вырастае да 30 метраў. Род кіпарысаў налічвае 15 відаў, сярод якіх кіпарыс жалобны і кіпарыс балотны. Найбольш вядомы кіпарыс вечназялёны. Але кіпарысы садзяць не толькі для аздобы. З іх прыгожай і шчыльнай драўніны вырабляюць мэблю. Людзі „гэтага" дрэва могуць ім ганарыцца. Кіпарыс, лічылі друіды, моцны і мускулісты. Такі і яго адпаведнік у чалавечым вобліку: буйны, суровы, раптоўны, але заўсёды спакойны і поўны аптымізму. Ён хутка становіцца дарослым і самастойным. Кіпарыс не пераносіць адзіноты, любіць сям'ю, зычлівы і верны ў сяброўстве. Яго гібкі характар шмат у чым аблягчае яму жыццё. Вось толькі ў каханні кіпарыс занадта паспешлівы і патрабуе надта многа, а таму і прайграе, хоць так прагне быць каханым.

*(працяг у наступным нумары)*

# ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. агонь, 3. рака ў Македоніі, 5. род беларускіх магнатаў, з якіх выводзіліся вялікія літоўскія гетманы ў XVII ст., 7. кофе, 9. рух рукі або галавы, 10. запал, натхненне, улюблёнасць, 11. напр. Альпы, 12. валакністы белы матэрыял, 14. савецкі авіяканструктар, разам з Гурэвічам распрацоўваў МіГі, 16. дзікая каза, 17. паселішча ў Сярэдняй Азіі.

**Вертыкальна:** 1. папулярны танец чэшскага паходжання, 2. ежа з тушы жывёл, 3. цяжар, маса, 4. напр. акцёр, спявак, 6. пераварэнне пры дапамозе плаўкі, 8. Джорджа (1511—74), італьянскі архітэктар, жывапісец і гісторык мастацтва, 9. горад у Швейцарыі, 11. архітэктурны стыль позняга Сярэдневякоўя, 13. лесапільны завод, 14. марская мае 1852 метры, англійская — 1609 метраў, 15. мянушка амерыканцаў.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 24 н-ра:**

**Гарызантальна:** імам, Катар, арляня, брус, восем, Астрон, чарапіца, тавар, сняжынка, мяшчанка, нітка, костачка, страйк, армія, алея, каптур, казка, бант.

**Вертыкальна:** карова, галеча, Мурманск, масаі, пліта, Антон, мардабой, сцяжынка, тэма, вошы, янот, „лада", Напалеон, Іардан, клічка, страх, карта, скарб.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Пётр Байко** з Белавежы і **Мікалай Сазановіч** з Навінаў-Вялікіх.

Цікава — пачытай

# ГІСТОРЫЯ КОМПАСА

Хто і калі вынайшоў компас, невядома. У кітайскіх кнігах захавалася адна цікавая легенда. 500 гадоў назад імператар Ху Ан-дзі гнаўся за мангольскім ханам. Манголы адступілі ў пустыню. Там іх коннікі ўзнялі такія хмары пылу, што яны закрылі ўсё неба. Кітайцы збіліся з дарогі і войску пагражала гібель. Тады імператар Ху Ан-дзі паставіў на сваёй калясніцы жалезнага чалавека, якога яму падарыў адзін мудрэц. Гэты чалавек заўсёды паказваў рукой на поўдзень. З яго дапамогай Ху Ан-дзі вывеў войска з пустыні.

Арабы карысталіся компасамі гадоў 800 назад. Яны рабілі іх у выглядзе намагнічаных жалезных рыбак. Рыбку клалі на ваду і яна паварочвалася галавой на поўнач.

Італьянскія купцы, якія гандлявалі з арабамі, прывезлі компас у Еўропу. Але яны надалі яму форму не рыбкі, а жабкі.

Компасы, падобныя на сучасныя — са стрэлкай, якая круціцца на вострым шпяні, — з'явіліся ў пачатку XIV стагоддзя.

**(яц)**




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міpановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1994 r. upływa 20 sierpnia 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 9000 zł., a kwartalnie - 117000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.


 

 

# ПІШУ ЯК ЖЫВУ

*(вынятка з кнігі)*

* * *

У школе, на бацькоўскім сходзе.

Сын двоечнік, другагоднік. А бацька, няросплы адстаўны палкоўнічак, увесь у ордэнскіх ды медальных планках. Наслухаўшыся непрыемнага, супакойвае і настаўнікаў, і бацькоў:

— Таварышы, не будзем лішне хвалявацца! З такіх, як мой Толя, вырастаюць буйныя дзяржаўныя дзеячы.

Амаль усе смяюцца. З неабстрактным падтэкстам, кожны сабе ўспамінаючы сяго-таго са знаёмых і незнаёмых.

**ЯНКА БРЫЛЬ**

# СЕНТЭНЦЫІ

Топчучы і сябе затопчаш.

* * *

Толькі бачыш, колькі разумееш.

* * *

Раніцай да сонца і камень моргне вокам.

* * *

Драма — згубіў сябе ў гушчары дзён.

* * *

Дрэйф — накіравацца на спакуслівы голас.

**БАРЫС РУСКО**






*Мал. з газеты "Беларуская маладзёжная".*

# РЭПКА

*(казка)*

Пасадзіў дзед рэпку. Расла рэпка, падрастала: зямелька яе карміла, доджжык паіў, а вецер прыносіў найцікавейшыя навіны. Вырасла рэпка вялікая, велізарная. І вырашыў дзед выцягнуць рэпку: цягне, пацягне, выцягнуць аднак не можа. Задумаў дзед паклікаць на падмогу бабку. Прыйшлося паехаць у горад, бо бабка жыла ў гарадской кватэры сына, які выехаў у Амерыку. Прыехаў дзед у горад і памаленьку паплёўся пяшком у той квартал, дзе знаходзілася сынава кватэра. У сына быў ён толькі адзін раз, даўнодаўнюсенька, ды сын тады сам прывёз дзеда з вакзала дадому на таксі. Дарогі тады дзед добра не запамятаў ды і сынавага адраса не атрымаў, каб не заманілася яму яшчэ раз брудзіць гарадскія пакоі. Сёння аднак трэба было трапіць самому і дзед, прыпамінаючы даўнейшыя аповяды бабкі, кудою яна хадзіла, пачаў перабірацца цераз лабірынты аднолькавых жоўта-шэрых, велізарных кубікаў. Навокал дзеці бегалі і крычалі, старэйшыя сядзелі і маўчалі, а самаходы пырхалі, быццам курылі нейкія смярдзючыя папяросы. Хадзіў дзед то туды, то сюды, блукаючы, быццам мешчанін у невядомым лесе. Зусім збіты з панталыку, прысеў змучаны на лавачцы побач дзвюх жанчын, якія горача пра нешта перашэптваліся. Шэпт сціх і раптам дзед пачуў нейкі знаёмы голас:

— А ты чаго тут шукаеш, дзед?

Дзед падняў галаву і ў адной з жанчын, за размаляванымі губамі і напудранымі шчокамі, пазнаў сваю бабу Любу.

— А, добры дзень! Прыехаў прасіць цябе, каб дапамагла ты рэпку вырваць, — сказаў узрадаваны дзед.

— Якую рэпку? — спытала здзіўлена баба.

— Ну, рэпку; пасадзіў у агародзе, там, пад плотам ад Дуні. Вельмі вялікая вырасла...

Жанчыны глянулі на сябе і перасміхнуліся, а потым і зусім голасна зарагаталі:

— Старасвецкі ты чалавек, дзеду, зусім не ідзеш за прагрэсам, — сказала баба. — Тая Дуня, пра якую ты гаворыш, здаўна ўжо Дуняй не называецца, а толькі Дыянай. Вось яна, — паказала баба на сваю сяброўку, — не пазнаеш, бачу, сваю суседку.

— Хэлоў, дзед! — бадзёра запішчала Дуня-Дыяна.

— А-аа... — хацеў дзед нешта сказаць, ды не ведаў што.

— З таго часу, — прадаўжала баба, — як мы прыехалі ў горад, вядзем зусім другое, чым на вёсцы, жыццё: наведваем тэатр і кіно, мыемся ў саўне, загараем у салярыі, займаемся аэробікай...

— А рэпку, Люба, паможаш мне выцягнуць? — перабіў ёй дзед.

— Я цяпер таксама ўжо не называюся Люба, толькі Ляўра, — звярнула ўвагу баба. — А сам рэпкі не можаш вырваць? У мяне, бачыш, рукі далікатныя пасля манікюра, ад рэпкі патрэскаюць і пачырванеюць; куды я з такімі пакажуся?

— Надта вялікая вырасла, — уздыхнуў дзед.

— Угнаення замнога даў? — пацікавілася баба.

— Ды не, толькі крыху гною падкінуў.

— Гной надта шкодзіць раслінам, асабліва каранэплодам. У ім вельмі многа шкодных мікраарганізмаў, якія атручваюць і глебу, і ваду, і паветра. Трэба дбаць, дзеду, пра экалогію, пра сваё прыроднае асяроддзе і для ўгнаення прымяняць толькі „Экавіт". У ім ёсць усе неабходныя мікраэлементы і вітаміны. Ды замест тырчэць у тым сваім гноі, хадзіў бы на трэніроўку.

— На якую трэніроўку?

— На такую, што прыдае сілы. Вось у нашым пасёлку дзейнічае паўэрклуб — клуб асілкаў. Пахадзіў бы на такую трэніроўку, набраў бы сілы ды і сам без нічыёй дапамогі выцягнуў бы тую сваю рэпку.

— Перастань кашалі плесці. Прыедзеш, Лярва, памагчы, ці не? — нецярпліва спытаў дзед.

— Хам! Хамула! Хамут! — завішчала баба. — Пайшоў прэч! Прэч!

Збянтэжаны дзед, не надта свядомы таго што здарылася, паплёўся паміж аднолькавымі жоўта-шэрымі велізарнымі кубікамі так, як яго ногі неслі; абы далей ад бабскага крыку. Шчасліва ўдалося яму трапіць на вакзал і вярнуцца дамоў.

Задумаў дзед паклікаць на дапамогу ўнучку, якая некалькі гадоў таму выехала ў Брусель зарабіць крыху грошай. Напісаў дзед ліст. Праз тыдзень пісьманосец прынёс адказ. Унучка пісала, што хацела б вельмі дзеду дапамагчы, але не мае часу, бо дзень і ноч працуе масажысткай. Пісала таксама, што не можа датыкацца да рэпкі, каб не пашкодзіць скуры. Скура, — пісала, — мусіць быць далікатная, бо вырашае пра поспех у яе працы; дзеля гэтага яна штотыдзень наведвае лекара. Нарэшце напісала, што яна цяпер здаровая і жадае дзеду здароўя таксама і раіла, каб і дзед заняўся масажам, бо добры і ўмелы масаж надта прыдае сілы. Пасля масажу нават такія слабыя, што і мезенцам не могуць рухаць, набіраюць сілы маладых жарабцоў, — закончыла ўнучка.

Прачытаў дзед ліст, уздыхнуў за тым часам, калі яшчэ дзяўчаты жылі не ў горадзе, а на вёсцы, а яго кіпучай тады крыві не трэба было падаграваць ніякім масажам.

Вырашыў дзед паклікаць на дапамогу сучку Жучку. Выйшаў на парог, свіснуў і, калі сучка прыбегла, сказаў:

— Паможаш мне выцягнуць рэпку?

— Колькі часу я табе безупынна брахала, каб каня не прадаваў? Запрог бы і рэпку як бач выцягнуў бы! А цяпер думаеш мяне запрэгчы, як эскімос? Ды не туды дарога! Я, хаця ўжо старая, ды сучка недурная — у хамут не палезу.

Задумаў дзед паклікаць на дапамогу ката, які акурат грэўся на прызбе.

— Слухай, Вася, рэпку мне дапаможаш выцягнуць, — сказаў дзед.

— Я цяпер не Вася, толькі Джынкс. Не маю часу: у свабодных ад адпачынку хвілінах мушу за мышамі ганяцца, каб неяк пражыць. Добрыя гаспадары даюць сваім катам „віскас" каб мелі і мікраэлементы, і вітаміны, ну і больш часу таксама. А ты што мне даеш? Недаедкі свае засохлыя! Пры камуне яшчэ малаком са мною дзяліўся, а цяпер, калі стаў на дыету, і тое сам выпіваеш. Дарэчы, ці ўяўляеш сабе, як можна цягнуць рэпку маімі кіпцюрамі?

Вырашыў дзед паклікаць на дапамогу мышку. Паставіў у куточку пастку з крошкай сыру. Праз некалькі хвілін пастка трэснула і дзед выцягнуў з яе ледзь жывую мышку:

— Дапаможаш мне выцягнуць рэпку!

— Зраблю ўсё, толькі пусці мяне жывой. Дзе тая рэпка расце?

— Пад плотам.

— Добра, дзед, пераначуем — болей пачуем! Ідзі, кладзіся спаць, а раніцай рэпкі ў зямлі не будзе. Паклапачуся я пра гэта разам з усімі навакольнымі сяброўкамі.

Устаў дзед раніцай і пайшоў у агарод: у ямцы пад плотам валялася некалькі мышыных недаедкаў. Дзед набраў свежага ранішняга паветра поўныя грудзі і ўздыхнуў з палёгкай.

**АДАМ МАНЬЯК**

# ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

## ВЯДЗЬМАРКІ

*(Працяг; пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

### ВЯДЗЬМАРКА-ІНСТРУКТАРКА

Папярэдняя гісторыя — сведчанне таго, што вядзьмаркі могуць істотна ўплываць на лёсы асобных людзей, і было б дзіўна, каб несумленныя палітыкі не паспрабавалі б выкарыстаць вядзьмарак у барацьбе за высокія дзяржаўныя пасады.

Гісторыя, якую мы мусім распавесці, на жаль, не можа быць пацверджана дакументальна, бо пра яе мы дазналіся ад аднаго заатэхніка свінагадоўчага комплексу, што на Шклоўшчыне...

Некалькі месяцаў таму старшыня адной з парламенцкіх падкамісіяў, Алесь Лукічэнка, дробны палітычны авантурыст, задумаў здейсніць дзяржаўны пераварот, але абраў для гэтага нетрадыцыйны для менскай палітычнай эліты народны сродак: варажбу. Ягоная пляменніца, Арына, інструктарка калгаснай лазні, якая здаўна мела схільнасць да варажбы, пагадзілася узяць удзел у чарговай авантуры свайго дзядзькі.

Галоўную небяспеку для кар'еры Лукічэнкі ўяўляў Прэм'ер, шырокавядомы, але малапапулярны палітычны дзеяч, якога старшыня парламенцкай падкамісіі небеспадстаўна вінаваціў у карупцыі.

Палітычны авантурыст, які за час працы ў парламенце не страціў натуральнай вясковай хітрасці, нібыта для замірэння запрасіў Прэм'ера наведаць свой калгас, абяцаючы немудрагелістую, але прывабную культурную праграму — наведванне свінакомплекса і лазні.

Адмовіцца было няёмка, бо запрашэнне было зроблена праз афіцыйны друк. Прэм'ер выправіўся ў падарожжа. Ужо ў дарозе, седзячы ў кабіне шляхотнага "мерсэдэса", Лукічэнка, быццам між іншым, паказаў свайму ворагу фотаздымак пляменніцы, і запэўніў, што Арына валодае ўсімі відамі амаладжальнага масажу.

Пад заканчэнне візіту на калгасны свінакомплекс высокі госць бы ўражаны, калі замест хлеба-солі яму спрэзентавалі гладкага лупавокага кныра, але на пытанне першага чалавека дзяржавы, чаму яму падклалі такую свінню, Лукічэнка запэўніў здзіўленага Прэм'ера, што гэта — мясцовая традыцыя.

Перапэцканага гноем кныра няёмка было садзіць у "мэрсэдэс", і таму Прэм'ер пагадзіўся ўзяць жывёліну з сабой у лазню. Дарэчы, падступны Лукічэнка зноў запэўніў, што сала ад гэтага стане толькі смачнейшым.

Пакінуўшы ахову ў прылазніку, Прэм'ер наіўна аддаў сваё цела ў чуйныя рукі інструктаркі Арыны. Тая, расклаўшы разамлелага і страціўшага пільнасць ганаровага кліента, нашмаравала яго чароўнай маззю, пасля чаго той неспадзеўкі для сябе ператварыўся ў кныра. Дзякуючы той жа мазі лупавокі падарунак са свінафермы набыў чалавечае падабенства. Вядзьмарскае майстэрства пляменніцы Лукічэнкі было настолькі дасканалым, што нават ахова не заўважыла падмены, да таго ж, Прэм'ер і кныр мала чым розніліся... Справу давяршыў шляхотны шэры гарнітур і гальштук, і радавы картэж прымчаў у сталіцу дрэсіраванага кабана.

Ні ў чым не вінаватая жывёліна і дагэтуль паслухмяна выконвае ўсе прыхаці свайго сапраўднага гаспадара, старшыні калгаса; адзінае, чаго не здолела дамагчыся вядзьмарка — прывучыць прывезенага з Расеі племяннога кныра размаўляць па-беларуску і есці шакалад "Снікерс" з гуманітарнае дапамогі, але атачэнне Прэм'ера нават гэтыя дробныя хібы здолела ператварыць у добрыя якасці, і цяпер кожны ведае, што Прэм'ер змагаецца за двухмоўе і ніколі не каштава заморскіх далікатэсаў...

Заатэхнік, які распавёў нам гэтую гісторыю з жыцця беларускай палітычнай эліты, дадаў цікавую акалічнасць: калі некалькі месяца таму вырашылі забіць ператворанага ў кныра Прэм'ера, той нечакана залямантаваў чалавечым голасам, паказваючы капытом на свежы нумар "Савецкай Беларусі" з партрэтам першага чалавека дзяржавы: "Свинья не я, а он, его и убивайте!.." Зніякавелыя рэзнікі, каб спраўдзіць справядлівасць слова жывёліны, загадалі ёй прачытаць некалькі абзацаў пад фотаздымкам, але кныр спаслаўся, што ў яго няма акуляраў, пасля чаго і быў забіты...

*(працяг будзе)*

**Падрыхтавалі ФРАНЦІШАК ХЛУС І МАРЦІН ЮР**



 